**ВІНШУЕМ НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА БЕЛАРУСІ Васіля БЫКАВА З 75- ГОДДЗЕМ.**
Стар. 3.



**ЛІСТЫ Наталлі ВІШНЕЎСКАЙ ДА Сяргея ГРАХОЎСКАГА.**
Стар. 5.

**"БЕЛАРУСЫ РАСІІ" Ў ДРУЦКУ.**
Стар. 6.



**БЕЛАРУСКІ АКЦЭНТ Уладзіміра МУЛЯВІНА.**
Стар. 7.

**СВОЙ ПОГЛЯД Аляксандра КАНДЫБЫ.**
Стар. 8.

**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

24 чэрвеня – 1 ліпеня 1999 года
Цана 17 000 рублёў

№№ 25—26

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

МЕРКАВАННЕ

## ВЕХІ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

● Юрый ДОМНІЧ.

НЯГЛЕДЗЯЧЫ на ўсе пагрозы, занепакоенасць, якая існуе ў некаторай часткі беларускага грамадства, вось ужо каторы год наша краіна з'яўляецца незалежнай і суверэннай дзяржавай. Шматгадовае імкненне беларусаў быць самастойнай нацыяй, гаспадаром на ўласнай зямлі ўвасобілася ў рэальнасць толькі ў 90-х гадах. Гісторыя ж станаўлення незалежнасці, шлях да яе адлічваецца дзесяцігоддзямі.

Першая адметная вяха на гэтым шляху — 25 сакавіка 1918 года, калі з'явілася III Устаўная грамата. Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі суверэннай дзяржавай было спробай зацвердзіцца ў якасці раўнапраўнага суб'екта міжнароднай супольнасці. Але палітычная сітуацыя вакол Беларусі на той момант была такой напружанай, што пабудаваць паўнацэнныя, незалежныя інстытуты дзяржаўнай улады аказалася справай хоць і спакуслівай, але немагчымай.

Пазней, 1 студзеня 1919 года, нарадзілася Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. БССР сталася больш жывучым утварэннем. Менавіта рашэнне, прынятае ў 1919 годзе, вызначыла лёс Беларусі на далейшыя сем дзесяцігоддзяў. Пераважная частка нашых суайчыннікаў нарадзілася ў гэты перыяд, таму ў многіх з іх уяўленне аб незалежнасці Беларусі атаясамліваецца менавіта з БССР. Але і савецкі перыяд, хоць пакуль і самы працяглы, завяршыўся.

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў гістарычны дакумент — Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Вельмі важна, што незалежнасць прыйшла ў краіну мірным шляхам і, хочацца спадзявацца, назаўсёды.

3 ліпеня — таксама гістарычная дата для беларускага народа. У вызваленні краіны, яе сталіцы ад нямецка-фашысцкай навалы хаваецца моцны фактар незалежнасці і свабоднага развіцця чалавека. І цяпер у Беларусі галоўнае дзяржаўнае свята — Дзень Рэспублікі — воляй грамадзян краіны прызначана менавіта на пачатак ліпеня.

Маючы пакуль невялікі вопыт самастойнага жыцця, наша дзяржава шукае захады для аб'яднання і ўмацавання нацыі. У сувязі з гэтым неабходна пазбавіць святы палітычнай заангажыраванасці. Бо кожнаму свядомаму чалавеку зразумела, і 25 сакавіка, і 1 студзеня, і 27 ліпеня, і 3 ліпеня — усё гэта неаспрэчныя факты нашай агульнай гісторыі.

# БЕЛАРУСЬ СЁННЯ



## ПОГЛЯД У XXI СТАГОДДЗЕ

**3 ліпеня, у Дзень Рэспублікі, мы будзем віншаваць адзін аднаго словамі "Са святам нашай Беларусі!" Цікава, а ці адчулі маладыя, што жыць у незалежнай краіне не толькі іх права, але і абавязак! Бо моц незалежнасці надае жаданне кожнага стаць самавызначэнцам свайго лёсу.**

**Каб знайсці адказ, я накіравалася ў Беларускі гуманітарны ліцэй, дзе мне пашанцавала пазнаёміцца з конкурснымі эсэ-сачыненнямі 57 старшакласнікаў з розных школ краіны на тэму: "Што варта ўзяць з сабой у XXI стагоддзе, а што не".**

**Марыя ФАДЗЕЧКІНА, Мінск.**
"Думаючы пра будучыню, я, перш за ўсё, думаю пра сваю сям'ю. І першая, каго б я ўзяла ў XXI стагоддзе, — гэта мая матуля, бо я ведаю, што нідзе і ніколі мне не будзе добра без маёй прыгожай і разумнай мамы. Я павінна ўзяць з сабою дзядулеву магілу і хворую бабулю, бо гэта карані, а без іх не можа быць прыгожай кроны. Сабраўшы ўсіх, можна падумаць і пра багаж... Здыму са сцяны сямейныя партрэты, пакладу ў рукзак Багдановічаў "Вянок", томік У. Караткевіча, каб і далей цешыцца простым і дасканалым беларускім словам, касету "Бітлз", тэлефоны сяброў, сціснy ў руцэ невялічкі абразок св. Ефрасінні — і ў дарогу".

**Наталля ЖБАНКОВА, Мінск.**
"Памятаю, я выйшла на вуліцу: белы снег таямніча зіхацеў пад месяцам. Я паглядзела на гэты снег, на гэта бясконцае неба і раптам зразумела, што гэта — мой край і я яго люблю. Потым прыйшло разуменне, што мова — не толькі сродак зносін, культура — не матэрыял для траты лішняга часу, гэта — тое, што яднае нас з нашым краем. У гэты дзень я адчула сябе вольнай".

**Дар'я ЛІС, Мінск.**
"...Чарнобыль. Забруджаныя зямля, вада, паветра. Чорны радыяцыйны вецер разносіць смерць. Ад страху чарнее душа. Шкада светлых ідэй, сапсаваных чорным розумам. Шмат намаганняў давядзецца прыкласці для выпраўлення памылак. У XXI стагоддзі патрэбны светлыя думкі".

**Таццяна ЛУК'ЯНЧЫК, Баранавічы.**
"Найперш я лічу: трэба узяць з сабою дабрыню, якая б выціснула з сэрцаў людзей усю жорсткасць і нянавісць, бо гэтыя якасці вядуць свет да знішчэння".

(Заканчэнне на 3-й стар.).



**"Мая маці, тое самае "дзіця вайны", пасля перажытага ніколі не глядзела і не глядзіць фільмаў пра Вялікую Айчынную — такімі балючымі засталіся для яе мінулыя падзеі".**

2 стар.

ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

У сярэдзіне чэрвеня ў Токіо прайшла беларуска-японская канферэнцыя па інвестыцыйнаму супрацоўніцтву і гандлю. Беларускую дэлегацыю ўзначаліў Міхаіл Мясніковіч.

З японскага боку ў канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі такіх фірм і кампаній, як Эксімбанк, Міцусіта, Панасонік, Міцубісі. Усяго на ўдзел у канферэнцыі былі пададзены заяўкі больш 100 прадстаўнікоў ад 41 японскай кампаніі.

У ходзе канферэнцыі адбылося адкрыццё новага офіса пасольства Рэспублікі Беларусь у Японіі.

*ДАВЕДКА.* У 1998 годзе тавараабарот паміж краінамі склаў 54,3 мільёна долараў ЗША, беларускі экспарт у Японіі дасягнуў 9,9 мільёна долараў, імпарт з Японіі склаў 44,4 мільёна долараў.

Буйным двухбаковым праектам стала будаўніцтва завода па вытворчасці кампрэсараў для халадзільных установак у Баранавічах, які ўступіў у строй у 1994 годзе, з прыцягненнем капіталаў японскіх карпарацый "Ніс Іваі", "Сань Электрык" і "Тое Інджэнірынг".



**...Але ў нашых дзяцей ёсць галоўнае — свая незалежная краіна. Каля 800 тысяч маленькіх жыхароў нарадзіліся за гады незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Тое, якім будзе іх дзяцінства, у многім вызначыць і лёс нашай краіны.**

3 стар.

*Падзеі. Факты.*

МЕРКАВАННЕ

# ЯШЧЭ ЖЫВУЦЬ СВЕДКІ ТОЙ ПЕРАМОГІ

## З ЛІПЕНЯ — ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ

● Галіна УЛІЦЁНАК.

Часам кажуць: вайна не скончыцца, пакуль застанецца хаця б адзін жывы яе сведка. І гісторыя паказвае: гэта менавіта так. Ужо больш за паўвека (дакладней, цэлых 55 год!) прайшло з той пары, як на Беларусі адгрымелі апошнія ваенныя выбухі, а кожная чарговая дата вызвалення — для беларусаў па-ранейшаму, як пяецца ў вядомай песні, "свята са слязамі на вачах". Другая сусветная (а для нас, найперш, Вялікая Айчынная) вайна стала неад'емнай часткай памяці для некалькіх пакаленняў жыхароў краіны: яшчэ выходзяць на ўрачыстае шэсце былыя салдаты — сёння сівыя ветэраны; яшчэ з болем і горыччу згадваюць перажытае тыя, таксама людзі ўжо сталага веку, каго мы сёння завём "дзеці вайны". Страх, голад, холад, здзекі, сіроцтва, а для многіх і жахі канцлагераў выпалі на іх долю тады, калі, здавалася б, усё павінна было толькі лашчыць і песціць чалавека. Мая маці, тое самае "дзіця вайны", пасля перажытага ніколі не глядзела і не глядзіць фільмаў пра Вялікую Айчынную — такімі балючымі засталіся для яе мінулыя падзеі. А бацька згадвае, як васьмігадовым хлопчыкамназіраў уезд у вёску немцаў на матацыклах: калі ён крыху паварушыўся і галінкі зашамацелі, адзін з салдатаў, не гледзячы, даў аўтаматную чаргу па тых кустах. Кулі праляцелі літаральна над самай галавой... Ад той вайны засталіся ў нашай сям'і і фотаздымкі майго дзеда, як тады казалі, "чырвонага камандзіра", а на справе проста маладога лейтэнанта. Ён сустрэў вайну ў першыя ж дні на Украіне, там жа і загінуў недзе на пачатку сорак другога — у самы цяжкі і страшны для Савецкай Арміі перыяд.



Фота М. Пятрова, БелТА.

*У зале новай экспазіцыі музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.*

Увогуле пра другую сусветную вайну, як і пра ўсякую іншую падзею, існуюць розныя меркаванні, і іх тым болей, чым далей адыходзяць ад нас тыя дні. Але ёсць у кожнай падзеі нейкая адна асноўная, магістральная плынь, якая і вызначае сутнасць таго, што адбываецца. Усё астатняе — спадарожнае, таксама рэальнае, але ўжо другараднае. Дык вось, калі казаць пра катаклізмы паўвекавой адлегласці, галоўным усё ж такі з'яўляецца ўсведамленне, што ў сорак першым на нашу зямлю прыйшлі захопнікі, ворагі, якія вынішчалі наш народ, а ў сорак чацвёртым адбылося вызваленне ад іх. Увесь далейшы "суд" — людскі і суд гісторыі павінен зыходзіць найперш з гэтага. І тады мы пазбегнем як палітычных, ідэалагічных спекуляцый, так і затушоўвання сапраўднай тагачаснай рэчаіснасці. Прынамсі, людзі, якіх звычайна завуць простымі, у адрозненне ад палітыкаў даўно ўжо зразумелі гэтую ўвогуле нескладаную выснову, а таму і праз пяцьдзесят пяць год трэцяга ліпеня зноў будуць і слёзы на вачах, і шчымлівы боль у сэрцах нават тых, хто пра Вялікую Айчынную ведае толькі з кніг, кіно і ўспамінаў сведкаў — пакуль яшчэ жывых, і будзе гучаць зразумелае ўсім слова "незалежнасць".



*Карта-схема беларускай наступальнай аперацыі "Баграціён".*

# «МАЛЕНЬКІ ПРЫНЦ» З ПАЛЕССЯ



"Чысты дар Сашы Чаркаса" — так называўся артыкул Святланы Берасцень, надрукаваны ў нашай газеце (6.05.99). Хлопчык, голас якога параўноўваюць з вакалам Раберціна Ларэці, жыве ў Пінску.

А нядаўна — Саша Чаркас стаў пераможцам міжнароднага фестывалю-конкурсу "Маленькі прынц", што адбыўся ў Бухарэсце. У конкурсе ўзялі ўдзел 80 чалавек з 14 краін. Падчас уручэння юнаму вакалісту адмысловага дыплома аб прысваенні ганаровага тытула "Маленькі прынц", галоўнага прыза і прэміі прысутнічаў прэзідэнт Румыніі Эміль Канстанцінеску, які выказаў захапленне талентам беларускага хлопчыка. Румынская прэса ж пісала, што поспех палескага спевака быў ашаламляльны, авацыі і кветкі — безумоўна заслужаныя. Мы можам ганарыцца, што наша зямля нарадзіла такі талент.

**Алена СПАСЮК.**

# ПАДАРУНАК АД УНУЧАК ШАГАЛА

**Унучкі Марка Шагала Мерэт Меер-Грабер і Бэла Меер, якія ўпершыню наведалі радзіму свайго славутага дзеда толькі ў 1997 годзе, падарылі Віцебску 32 каляровыя і чорна-белыя літаграфіі — ілюстрацыі да Бібліі і 96 чорна-белых афортаў — ілюстрацыі да "Мёртвых душ" Мікалая Гогаля. Як паведаміла дырэктар Віцебскага музея Марка Шагала Людміла Хмяльніцкая, мастак выканаў 24 каляровыя і 7 чорна-белых літаграфій да Біблії ў 1960 годзе па заказу французскага выдавецтва "VERVE".**

# ПОСПЕХАЎ ВАМ, ЗЕМЛЯКІ!

Саракавая міжнародная алімпіяда па матэматыцы збярэ ў Румыніі ў ліпені прадстаўнікоў каля 80-ці краін. Сёлета Ігар Варановіч, галоўны трэнер зборнай школьнікаў Беларусі па матэматыцы, павязе з сабой на міжнародную алімпіяду 6 чалавек. Каманда, трэба сказаць, моцная, бо Арцём Кохан, Дзмітрый Бадзягін, Іван Ражкоў другі раз будуць прымаць удзел у гэтых інтэлектуальных спаборніцтвах і ўжо адзначаліся медалямі, а Іван Лосеў тройчы трапляў у лік лепшых на міжнародных алімпіядах.

**Руслан АНАНЬЕЎ.**



НАВУКА

# Аляксандр ВАЙТОВІЧ: ДАСЛЕДАВАННІ КОСМАСУ —

### ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА САВЕТА ПА КОСМАСУ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ, ПРЭЗІДЭНТАМ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК, АКАДЭМІКАМ АЛЯКСАНДРАМ ВАЙТОВІЧАМ

**— Аляксандр Паўлавіч! Ці выклікана ўтварэнне менавіта цяпер Нацыянальнага савета па космасу якімі-небудзь зноў узнікшымі абставінамі, звязанымі з працамі па касмічнай тэматыцы, што праводзяцца ў рэспубліцы?**

— Рашэнне ўрада аб стварэнні Нацыянальнага савета па космасу я б назваў заканамерным крокам у працэсе арганізацыі даследаванняў і распрацовак, што ажыццяўляюцца ў рэспубліцы ў данай галіне, пачынаючы з 60-х гадоў. Напомню, што Беларусь прымала самы актыўны ўдзел у рэалізацыі многіх касмічных праграм былога СССР. З гэтай мэтай у рэспубліцы былі пабудаваны заводы, створаны праектныя арганізацыі і спецыялізаваныя вытворчасці, уведзена ў эксплуатацыю унікальнае абсталяванне, асвоены самыя сучасныя тэхналогіі вырабу касмічнай тэхнікі, сфарміраваліся высокакваліфікаваныя калектывы вучоных, інжынераў і рабочых. На жаль, пасля распаду СССР гадамі наладжаныя навукова-тэхнічныя сувязі былі абарваны, а ўжо заключаныя дагаворы проста "павіслі ў паветры". Спатрэбілася некалькі вельмі цяжкіх для касмічнай сферы гадоў, каб усе зразумелі памылковасць разрыву агульнай навукова-тэхнічнай прасторы і неабходнасць сумеснага выкарыстання існуючага патэнцыяла. Цяпер у рамках Саюза Беларусі і Расіі існуе спецыяльная праграма па космасу. Натуральна, для каардынацыі дзелавых адносін з расійскімі партнёрамі спатрэбіўся спецыялізаваны орган. Ім і стаў Нацыянальны савет па космасу пры ўрадзе рэспублікі.

**— Якія яшчэ задачы, апрача каардынацыі работ па касмічнай тэматыцы, будзе вырашаць савет?**

— Кола задач досыць шырокае. Тут і арганізацыя сістэмных даследаванняў па абгрунтаванню напрамкаў правядзення работ па вывучэнню і выкарыстанню касмічнай прасторы, і падрыхтоўка прапаноў кіраўніцтву краіны аб прыярытэтах у гэтай галіне, і вызначэнне парадку выкарыстання атрыманых вынікаў у розных галінах эканомікі Беларусі. Савет будзе таксама распрацоўваць праекты нацыянальных заканадаўчых актаў, што рэгламентуюць дзейнасць у сферы даследавання і выкарыстання касмічнай прасторы. Акрамя таго, на Савет ускладзена ажыццяўленне ўзаемадзеяння з адпаведнымі органамі не толькі Расіі, але і іншых краін СНД па пытаннях выканання сумесных касмічных праграм і праектаў, а такcама арганізацыя ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з касмічнымі агенцтвамі іншых дзяржаў. Пры гэтым у цэнтры ўвагі савета, безумоўна, будзе выкарыстанне дасягненняў у касмічнай галіне ў інтарэсах народнай гаспадаркі рэспублікі.

Неабходна адзначыць, што інтарэсы гэтыя вельмі разнастайныя. Напрыклад, работнікі сельскай, лясной, воднай гаспадаркі і меліярацыі надзвычай зацікаўлены ў касмічнай інфармацыі дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі. З дапамогай космасу можна больш паспяхова вырашаць задачы кантролю экалагічных сітуацый і вядзення маніторынга радыяцыйнай абстаноўкі, аналізаваць надзвычайныя сітуацыі і рыхтаваць матэрыялы для прыняцця рашэнняў па прадухіленню ці ліквідацыі іх вынікаў, даследаваць прыродныя рэсурсы і шукаць карысныя выкапні, абнаўляць тапаграфічныя карты па выніках здымкі з выкарыстаннем спадарожнікавых навігацыйных сістэм, развіваць сувязь і тэлебачанне, нарэшце, прагназаваць надвор'е. Я ўжо не гавару аб выкарыстанні касмічных тэхналогій для атрымання, напрыклад, паўправадніковых матэрыялаў для патрэб электроннай прамысловасці ці біялагічна актыўных рэчываў для фармацэўтычнай прамысловасці. Нарэшце, мы можам прадаваць іншым дзяржавам распрацаваныя і выраблення ў рэспубліцы ў рамках работ па касмічнай тэматыцы спадарожнікавыя прыборы дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі, наземныя сістэмы лічбавай апрацоўкі касмічнай інфармацыі, оптыкаэлектронныя сістэмы і комплексы траекторных вымярэнняў ракетна-касмічнай тэхнікі, навігацыйныя сістэмы, іншую касмічную апаратуру. Усё гэта здольна даць важкі эканамічны эфект і павысіць прэстыж нашай маладой дзяржавы ў свеце.

**— Над чым цяпер працуюць беларускія вучоныя ў рамках касмічнай тэматыкі?**

— Перш за ўсё адзначу, што асноўныя даследаванні працяваюцца па тых напрамках, дзе мы маем сур'ёзныя напрацоўкі. У прыватнасці, у Інстытуце фізікі створаны новыя прыборы для шматзанальнай здымкі з космасу ў інтарэсах сельскай і лясной гаспадаркі. У Інстытуце электронікі распрацоўваецца спадарожнікавы прыбор для глабальнага кантролю азонавага слоя Зямлі і іншых газавых складаючых з адначасовым карціраваннем палёў азону на вышынях да 70 кіламетраў, а таксама вызначэннем іх вертыкальных профіляў у 8-мі спектральных дыяпазонах. У Інстытуце цепла- і масаабмену распрацаваны магутны тарцавы халоўскі паскаральнік, што выкарыстоўваецца для мадэліравання ўмоў аэрадынамічнага нагрэву, якія мае месца пры палёце касмічных апаратаў у атмасферы Зямлі і іншых планет ва ўмовах, блізкіх да натурных. У БДУ распрацавана арбітальная відэафотаметрычная сістэма для правядзення даследаванняў аптычных выпраменьванняў у атмасферы і іонасферы Зямлі, абумоўленых навальнічнай актыўнасцю і звязаных з сейсмічнымі працэсамі.

У сваю чаргу, спецыялісты БелОМА і "Пеленга" праводзяць мадэрнізацыю шматзанальнай спадарожнікавай камеры МК-4М, якая ўстанаўліваецца на спадарожніках серыі "Рэсурс" і забяспечвае здымку зямной паверхні ў 4-х спектральных дыяпазонах. Тут жа вядуцца працы па стварэнню новай шматзанальнай спадарожнікавай фотакамеры "Гема". У апараце павялічана фатаграфуемая плошча зямной паверхні, павышана адрознівальная здольнасць, прадугледжана аўтаматычнае змяненне спектральных зон да 12, выкарыстоўваецца аўтаматычнае кіраванне працай фо-



# ПОГЛЯД У XXI СТАГОДДЗЕ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).*

**Таццяна ТАРАНСКАЯ, Светлагорск.**

"Я не магу ўявіць сваю будучыню без квітнеючай Беларусі. Наша пакаленне, якое ўступіць у наступную эру, павінна адрадзіць Бацькаўшчыну — шматпакутную, але бясконца дарагую. І канешне, у новым часе я хачу быць у сваёй роднай хатцы, разам з маімі бацькамі, бо яны — самае дарагое, што ў мяне ёсць".

**Іван ПЛЮГАЧОЎ, Мінск.**

"На жаль, дваццатае стагоддзе пазнаёміла нас не толькі з такімі словамі, як "правы чалавека", "прававая дзяржава", але і з такімі, як "дыктатура" і "рэпрэсіі"... Мой дзед стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Ён быў арыштаваны ў 1937 годзе па даносу. Ад яго хацелі дабіцца прызнання ў антысавецкай дзейнасці, катавалі, але безвынікова, пасля чаго "тройка" прысудзіла яго да расстрэлу. Прыгавор быў здзейснены 13 студзеня 1938 года, у дзень яго саракагоддзя...

Мне б хацелася, дакладней кажучы, я лічу неабходным, каб у XXI стагоддзі ўсе краіны сталі дэмакратычнымі, каб усюды паважалі правы чалавека, а пра дыктатуру можна было б назаўсёды забыць. Акрамя таго, мне проста хацелася б, каб у будучым стагоддзі людзі былі лепшыя: больш шчырыя, добрыя, міласэрныя, больш цярпліва і чалавечна ставіліся адзін да аднаго".

**Ганна БОБРЫКАВА, Мінск.**

"На парозе XXI стагоддзя варта ўспомніць, што нацыянальны характар, які дастаўся нам ад продкаў, — гэта не адзенне, якое можна хутка змяніць, гэта сутнасць нашага жыцця, яго змест і форма — непадзельныя. Душа народа пры ўсёй эфемернасці вельмі трывалая і ўстойлівая, значна больш устойлівая за той ці іншы дзяржаўны лад. І ва ўсіх эканамічных і палітычных зменах душу народа трэба асабліва старанна захоўваць і засцерагаць.

Нам, беларусам, ёсць чым ганарыцца, ёсць з чым годна ўвайсці ў трэцяе тысячагоддзе. Як і іншым народам свету, нам трэба будзе несці далей свае самабытныя, непаўторныя культуру, мову і іншыя адметныя якасці. Не трэба пры гэтым баяцца адстаць ад часу, час усё роўна пацягне нас за сабой".

**Алена ДУБОВІК, Мінск.**

"Што ўзяць з сабой, а што назаўсёды пакінуць у мінулым? Я вылучыла адну, на мой погляд, самую галоўную прычыну сусветных пакут. Імя ёй — абыякавасць. Дарэчы, я б вельмі хацела прыхапіць больш чуласці ў будучыню, а яшчэ — надзею і ўсе яркія, прыгожыя колеры жыцця.

Гасподзь пакінуў нам параду, якая гучыць наступным чынам: "Дык выпрастайце апусьціўшыяся рукі і стомленыя калені. І сьцежкі простыя рабеце нагамі вашымі, каб кульгавае не збілася з дарогі, а лепш паздаравела".

**Юлія ЗАХАРЭВІЧ, Барысаў.**

"Будучыня чалавецтва не здаецца мне цёмнай і невыратавальнай. Наадварот, я з аптымізмам гляджу ў яе. Усё ў нашых руках, і мы павінны верыць у гэта".

**Алена ЮРЭВІЧ, Мінск.**

"Я хачу на першае месца ў спісе "неабходных рэчаў" паставіць каханне. Я не веру, што каханне выдумалі людзі, каб апраўдаць няясныя парывы. Яго не трэба тлумачыць ці апраўдваць. Яно існавала да нас, гучала ў прасторы рознымі мелодыямі, давала жыццё, даравала сілы. А мы, людзі, заўсёды кудысьці спяшаемся, бяжым з такой хуткасцю, што нават не паспяваем даць прыгажосці кахання ўкараніцца ў нашых сэрцах. Навошта ж цягнуць з сабой у новае стагоддзе адвечную спешку, якая высушвае людзей, перашкаджае ім набліжацца да вечнае таямніцы жыцця".

**Напрыканцы хачу сказаць: мне дваццаць гадоў, і, як і мае новыя сябры, я ўпэўнена, што ў нас ёсць будучыня.**

**Падрыхтавала
Лавінія АРЭШКА,
студэнтка журфака БДУ.**

# НА СУЧАСНЫМ УЗРОЎНІ

такамеры з улікам воблачнасці і іншых умоў у момант здымкі.

Сур'ёзныя даследаванні вядуцца па трох асноўных напрамках і ў Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі. Першае з іх звязана з распрацоўкай усё больш магутных комплексаў па апрацоўцы касмічных здымак і выкарыстаннем атрыманай інфармацыі ў працэсе стварэння дакладных лічбавых карт. Вельмі многа ўвагі ўдзяляецца ў гэтым буйным навуковым цэнтры і стварэнню сістэм кіравання ў надзвычайных сітуацыях. Для таго каб у лічаныя гадзіны правільна кіраваць перамяшчэннем вялікіх мас людзей і вялікай колькасці разнастайнай тэхнікі, патрэбны дасканалыя карты, падрыхтаваць якія можна толькі з дапамогай інфармацыі, што атрымліваецца з космасу. Адпаведна і сістэмы кіравання ствараюцца на базе менавіта такой "картаграфічнай падложкі". Лічу, што работы ў гэтым напрамку ідуць досыць паспяхова. Нарэшце, вельмі перспектыўнымі з'яўляюцца работы па стварэнню геаінфармацыйных сістэм, наяўнасць якіх дазваляе эфектыўна вырашаць самы шырокі спектр народнагаспадарчых задач.

Варта адзначыць, што ўсе гэтыя новыя распрацоўкі беларускіх вучоных ўключаны ў сумесную касмічную праграму ў рамках Саюза Беларусі і Расіі.

**— А ці магчыма стварэнне беларускага спадарожніка?**

— Пакуль пытанне так не ставіцца, таму што выраб і запуск на арбіту спадарожніка — вельмі дарагая справа. Аднак магу паведаміць, што з расійскімі калегамі абмяркоўваецца магчымасць стварэння сумеснага спадарожніка для правядзення навуковых даследаванняў у космасе, у тым ліку і ў інтарэсах нашай рэспублікі. Прычым навуковую "начынку" гэтага спадарожніка складуць прыборы і апаратура, распрацаваныя і выробленыя ў Беларусі.

**— Як бы вы ахарактарызавалі міжнародныя кантакты нашай краіны ў галіне вывучэння і выкарыстання касмічнай прасторы?**

— Беларусь актыўна працуе на міжнароднай арэне ў данай галіне. У прыватнасці, нашы прадстаўнікі пастаянна ўдзельнічаюць у рабоце міжнародных канферэнцый па касмічнай тэматыцы. Вось і ў ліпені гэтага года ў Вене адбудзецца прадстаўнічы форум, на якім будзе прадстаўлены грунтоўны даклад аб стане і перспектывах развіцця касмічнай дзейнасці ў нашай краіне. Павінен заўважыць, што развіццё міжнародных кантактаў у сферы космасу азначае для нас, апрача ўсяго іншага, падтрыманне на самым сучасным узроўні навукова-тэхнічнага патэнцыялу Беларусі.

*ВАСІЛЮ БЫКАВУ — 75*

**Рыгор БАРАДУЛІН: "ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЗНАКАВАЯ АСОБА БЕЛАРУСІ. ПА ІМ СВЕТ ВЕДАЕ НАС. ДА ПРЫКЛАДУ, ЛЕТАСЬ ШВЕДСКІ ЧАСОПІС "EXPRESSEN" ЗМЯСЦІЎ АРТЫКУЛ "АПОШНІ ПРАЗАІК ЕЎРОПЫ". У ІМ, У ПРЫВАТНАСЦІ, НАПАЧАТКУ СКАЗАНА: "ПАСЛЯ СМЕРЦІ ГЕНРЫХА БЁЛЯ АДЗІНЫМ, МАГЧЫМА, АПОШНІМ ПРАДСТАЎНІКОМ КЛАСІЧНАЙ ПРОЗЫ Ў ЕЎРОПЕ ЗАСТАЎСЯ ВАСІЛЬ БЫКАЎ... УЛАСНА ПРОЗА БОЛЕЙ НЕ ПІШАЦЦА, А ТОЕ, ШТО ПІШАЦЦА, МОЖНА НАЗВАЦЬ РЭФЛЕКСІЯЙ АЛЬБО КАЛАЖАМ, КІНАСЦЭНАРЫЕМ АЛЬБО, НАЙЧАСЦЕЙ, ЭСЭ. НА ГЭТЫМ ФОНЕ ВАСІЛЬ БЫКАЎ ЗАСТАЕЦЦА Ў ЕЎРОПЕ САМЫМ НАДЗЕЙНЫМ І ПРАДУКЦЫЙНЫМ "ЛІТАРАТУРНЫМ ЦЭХАМ", — ЯК МОЖНА БЫЛО Б АКРЭСЛІЦЬ КОЖНАГА КЛАСІКА..."**

**МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ**

**Арсен ВАНІЦКІ**

# АДЦЕННІ ЖЫЦЦЯ

## Урыўкі з главы «У імя будучага»

БАЛГАРСКІ паэт Марка Ганчаў, калі гаварыў аб Беларускім таварыстве дружбы, падкрэсліў, што ў той час, калі ва ўсім свеце ўсведамляецца неабходнасць народнай дыпламатыі, у даным выпадку яе мадэль створана шмат дзесяцігоддзяў назад і паспяхова функцыяніруе зараз.

Пад дахам Дома дружбы абменьваюцца кнігамі і думкамі, сваімі здабыткамі пісьменнікі, мастакі, артысты, навукоўцы. І разам з тым смелымі надзеямі на тое, што ўклад у сусветную культуру — гэта ўклад дзеля ўзаемнага духоўнага ўзбагачэння ўсіх народаў, а не для таго, каб апраўдаць выкліканае комплексам непаўнацэннасці супрацоўленне, якое гатова служыць кан'юнктурным палітычным маніпуляцыям.

Таварыства дружбы з замежнымі краінамі сутнасцю сваёй паўсядзённай працы аб'ядноўвае найперш сваіх суайчыннікаў. Адчуваецца гэта заўжды. Кожны дзень мы разам з вядомымі людзьмі. Яны прыходзяць у Дом дружбы не па абавязку, а таму, што іх сэрцы адчуваюць патрэбу ў гэтым. Featured Рознабаковыя плыні сыходзяцца тут, набліжаючы паразуменне ў справах, працуючы на аўтарытэт Бацькаўшчыны. Шматлікія дабрычынныя акцыі атрымалі значны розгалас і шырокае прызнанне сусветнага супольніцтва.

Як заўважыў Васіль Быкаў, "сяброўства шчасліва доўжыцца пад невысокім гасцінным дахам па вуліцы Захарава ў Мінску. Менавіта тут, як і ў іншых кутках Беларусі, ідзе жыватворнае ператварэнне ворагаў у сяброў, сапернікаў у партнёраў".

Грамадскасць Беларусі ўсведамляе, што добрыя адносіны паміж людзьмі можна будаваць на расчышчаным месцы, разбураючы сумненні і недавер. Сяброўства, як і народная творчасць, перадаецца ад чалавека да чалавека, ад пакалення да пакалення шчырасцю і сардэчнасцю многіх людзей, іх імкненнем да яго. Менавіта гэтыя здольнасці мае актыў таварыства дружбы, які прыносіць Беларусі немалую карысць пазнаннем свету, здабыткаў іншых народаў. Дзякуючы многім вядомым навукоўцам, дзеячам культуры, свет пазнае Беларусь, і гэта ўзвышае лепшыя якасці народа. Акадэмік Аляксандр Вайтовіч, які, дарэчы, сваёю навуковай працай у галіне фізікі плазмы звязаны з прэзідэнтам таварыства "Югаславія — Беларусь" прафесарам Янашам Пурычам, вельмі зацікаўлена ўзначальвае таварыства "Беларусь — Югаславія", акадэмік Віктар Гайсёнак — старшыня таварыства "Беларусь — Украіна" — мае на Чарнігаўшчыне сваякоў.

Сяргей Панізьнік — старшыня таварыства "Беларусь — Латвія" — з такім жа імпэтам ставіцца да латышскай літаратуры, як да сваёй роднай. Прафесару Генадзю Цыхуну бліжэй балгарская гісторыя, культура, Ірыне Шаблоўскай — чэшская, Анатолю Вярцінскаму — кітайская, бо сам неаднойчы перакладаў творы класічнай і сучаснай кітайскай паэзіі. Нястомна ладзіць беларуска-польскія стасункі, ліквідуе "белыя плямы" ў нашай сумеснай гісторыі прафесар Леанід Лойка. Гэтак жа рухаюцца, але ў больш шырокіх напрамках народныя артысты Беларусі Ігар Лучанок, Міхась Дрынеўскі, Валянцін Елізар'еў. Яны разам з іншымі прадстаўнікамі таварыства не займаюцца ў наш трывожны час словаблудствам, а робяць стваральныя крокі, агульную справу на карысць людскога яднання, на карысць Радзімы. Мабыць і патрэбна гэта сёння дзеля забеспячэння грамадскай згоды і яднання, дзеля пераадолення крызісу ідэалогіі, маралі, эканомікі.

Чалавек пазнаецца не адразу. Для гэтага пажадана сустрэцца з ім неаднойчы, убачыць яго ў розных абставінах. Мабыць, пашанцавала мне ў гэтых адносінах з акадэмікам Яўгенам Канаплёй, які плённа ўжо каторы год узначальвае таварыства дружбы "Беларусь — Японія". Яўген Фёдаравіч — вядомы радыебіёлаг, многае зрабіў для таго, каб грамадскасць свету асэнсавала трагічныя вынікі чарнобыльскай катастрофы. Неаднойчы ягоныя навуковыя высновы пра гэтую трагедыю накіроўваліся ў многія краіны, яны звярталі ўвагу народаў на патрэбу сумесных намаганняў у вырашэнні складаных чарнобыльскіх праблем. Многа карыснага зрабіў ён дзеля пашырэння і ўмацавання беларуска-японскіх адносін у навуковым і культурным накірунках. Яго дзейнасць спрыяе духоўна-маральнай кансалідацыі суайчыннікаў. У поўную моц значнасць асобы акадэміка можна было адчуць, калі ў Доме дружбы сабраліся яго сябры, грамадскасць, каб павіншаваць з юбілеем.

У той вечар згадваўся яго талент навукоўца, грамадскага дзеяча, рамантыка, чалавека, які ўслаўляе наш народ, Беларусь. Калі Яўген Канапля быў яшчэ малодшым навуковым супрацоўнікам, ён стаў здатным лідэрам моладзі і, як гаварылася, меў амаль усе вышэйшыя ўзнагароды камсамола. І штосьці ўзвышанае было ў тым, што ён ганарыцца гэтым перыядам свайго жыцця, не грэбуе ім, як гэта робяць некаторыя прыстасаванцы. З такім чалавекам ёсць жаданне часцей сустракацца — ад гэтага, можна сказаць, робішся больш разважлівым. Ён, як магніт, вабіць да сябе тых, хто ў яго асобе ўспрымае сканцэнтраваны сінтэз лепшых якасцей беларуса. І мабыць таму мудры, як і многія японцы, пасол гэтай краіны Сігэо Нацуі перакана ўча звязаў многія стасункі, якія ўсталяваліся паміж нашымі краінамі, з асобай Яўгена Канаплі. Ужо сам факт, што да яго з глыбокай павагай, як давялося адчуць, адносяцца знакамітыя людзі — Фёдар Аляшкевіч, Ігнацій Антонаў, Георгій Сідарэнка, Яўген Іваноў, сведчыць, што ён з кагорты здатных людзей Беларусі, якія не толькі сёння славяць Айчыну, але і забяспечваюць будучыню свайго народа.

Амаль на ўсіх у той ці іншай ступені значных мерапрыемствах у Таварыстве дружбы прысутнічаюць інтэлігентныя, элегантныя жанчыны: народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, настаўніца Таццяна Злобіна, паэтэса Раіса Баравікова, знаўца літаратуры Наталля Чуева. Не толькі прысутнічаюць, што ўжо само па сабе ўпрыгожвае аўдыторыю, але і выконваюць актыўную ролю арганізатараў, найперш літаратурных вечарын, самі па-майстэрску дэкламуюць творы. Узнёсла з іх вуснаў гучала паэзія Аляксандра Пушкіна, Лесі Украінкі, Адама Міцкевіча, Дэсанкі Максімовіч, Сяргея Грахоўскага. Вакол іх групуюцца людзі, бо ёсць у іх гармонія душы і здольнасцей. За сваё жыццё яны зведалі ласку, радасць, людскую павагу. Яны, сапраўдныя жанчыны, заўжды жадаюць цяпла і ўтульнасці, светлых сустрэч. Дом дружбы, які прыйшоўся ім да сэрца, стаў пажаданым і для іншых людзей. Добра спрыяе развіццю навуковых сувязей Беларусі і замежных краін прафесар Адам Мальдзіс. Ён увасабляе сабой энцыклапедычную скарбніцу ведаў, якія тычацца ўзаемасувязей розных народаў, што заўсёды вабіць людзей. Дзякуючы яго руплівасці, добры розгалас атрымалі навуковыя канферэнцыі "Беларуска-літоўскія стасункі", "Адам Міцкевіч і нацыянальная культура", "Пушкін, беларуская культура, сучаснасць", "Гісторыя беларуска-ірландскіх адносін". Ён забяспечыў выданне летапісу Іосіфа Гашкевіча — першага рускага консула ў Японіі, радзімай якога была Беларусь.

Агульная праца на карысць людскога яднання збліжае ўсе ўзросты. Як у добрых сем'ях. А ці можна вылічыць узрост у час правядзення вечарын паэзіі? Хіба што па знешняму рэагаванню на радкі, якія прагучалі: яно больш стрыманае ў старэйшых. Выдатна тое, што на большасці вечарын дэкламуюць амаль на ўсіх славянскіх мовах, у першую чаргу, на украінскай, балгарскай, польскай, чэшскай дапытлівыя студэнткі Белдзяржуніверсітэта Аксана Бубнова, Марына Золатава, Таццяна Лермантава, Аксана Алянцэвіч. Іх майстэрства, артыстызм дазваляюць успрымаць гэтую няўрымслівую групоўку як славянскае літаратурнае аб'яднанне.

Не можа не радаваць, што ў склад праўленняў таварystваў дружбы з рознымі краінамі ўваходзяць прадстаўнікі розных узроставых груп. Ёсць школьнікі, у першую чаргу, з тых класаў, дзе звяртаецца асаблівая ўвага на



*Народны мастак Беларусі, акадэмік Георгій ПАПЛАЎСКІ, старшыня таварыства "Беларусь — Швейцарыя".*

вывучэнне замежных моў, гісторыі іншых народаў, нямала студэнтаў, якія захапляюцца замежнай тэматыкай. Дарэчы, многія літаратурныя, музычныя імпрэзы ладзяцца менавіта моладдзю. Разумныя, прыстойныя, поўныя неўтаймаванай энергіі юнакі і дзяўчаты, безумоўна, упрыгожваюць агульную справу. Гэты перспектыўны працэс актыўна падтрымліваюць рэктары Беларускага дзяржаўнага і лінгвістычнага універсітэтаў Аляксандр Казулін, Наталля Баранава, абраныя ў склад праўлення Беларускага таварыства дружбы.

Талакой здатных людзей забяспечваецца шлях да паразумення і сяброўства на карысць развіцця ўзаемакарыснага міжнароднага супрацоўніцтва. Можа таму ў дыпламатычным асяроддзі і ўзнікла добрае прыслоўе: "Наш дом дружбы — дом нашай дружбы".

***(Працяг будзе).***

АСОБА

# КАПЛІЦА ў Булынцы

**Вольга ЯГОРАВА.**

ЁН ВЫЙШАЎ насустрач. Усмешлівыя вочы, якія любяць вас, сказалі: "Добры дзень..."

Барыс Беразоўскі, карэнны мінчанін, вырас у самым цэнтры сталіцы. Але сустракае людзей кіламетраў за пяцьдзесят ад дома, на сваёй дачы ў маленькай (інакш і не скажаш) вёсачцы Булынка. Не так ужо і даўно яны разам з жонкай Ядвігай Станіславаўнай купілі сабе вясковы дамок.

Усё было, як ва ўсіх: дача і дача. Усякія там гарбузы, памідоры, цыбуля... І абляпіха расце, і барбарыс, і кітайская айва. І нават... ландышы ў цені за домам. Гаспадарка сапраўдная. Толькі працуй. Па прынцыпу: "Мне гадоў няшмат — жыву даўно..."

Але вось аднойчы бачыць Барыс Андрэевіч сон: у яго садзе, побач са старой яблыняй, — капліца. Ён павінен яе пабудаваць. Маліцца ў ёй Госпаду. І — дапамагаць людзям...

Устаў: лёгка на душы. Аднак і разгубленасць: на грашы пенсіянера хіба пабудуеш капліцу?

Прызнаем: і сон, і капліца, і сама дача ў Булынцы, ды і ўсё, што адбываецца ў жыцці з Барысам Андрэевічам, было не выпадкова, а па задуме Божай. Паверыў у Бога ён яшчэ зусім маладым чалавекам, калі быў афіцэрам Балтыйскага флоту. У моры ж кожны карабель ці падлодка — малая зямля, астравок, цывілізацыя, дзе жыццё і смерць залежаць ад кожнага пароўну...

Там жа ў моры прачытаў Цыялкоўскага "Аб інфармацыйным полі памяці", а потым і працы Вярнадскага. Усё гэта перавярнула душу... Але каму пра тое скажаш? Нават жонка не ведала, што яе Беразоўскі — веруючы. Зрэшты, не, ведала, як ніхто, таму што адчувала адносіны мужа да сябе. Барыс Андрэевіч літаральна абагаўляў яе. Адносіны да жонкі, да жанчыны і ёсць ступень духоўнай чысціні мужчыны.

Капліцу яму паставілі за сем дзён.

Здзівілася вёска: за тыдзень усё — ад бетонных работ і нават завесы на дзвярах павесілі.

Хто?

Проста аднойчы расказаў Барыс Андрэевіч пра свой сон аднаму чалавеку, які вылечыўся па яго малітве да Збавіцеля. Ніякай платы з таго ён, зразумела, не браў і расказваў проста так. А той чалавек — не забыўся. Адну машыну з блокамі, з цэглай — да падворка. Другую — з дрэвам, толем, шыферам... Прывёў і людзей, будаўнікоў.

Капліца стаяла перад вачыма Барыса Андрэевіча. Які там праект? Ён толькі паказваў будаўнікам "дзе, як і што павінна быць..." Дапамагаў ва ўсім, што ўмеў.

Важна было выбраць месца. Хаця ў сне нібыта было пазначана: паблізу вельмі старой яблынькі "белы наліў". Яблынька такая старая, што ўнутры старое дупло, полая ўся, а звонку абрасла мохам. Такая святасць, што ад высахлага нібыта дрэва ідуць у рост маладыя парасткі: цуд ды і годзе!... Каля яблынькі той, быццам у келлі, сярод ікон.

Адчынілася капліца — сталі прыносіць і іконы. Знаёмы мастак (таксама вылечаны ў капліцы) падарыў Мікалая Цудатворцу сваёй работы. Перадалі ў знак падзякі маленькую іконку белашвейкі Тамары Багданавай. Яны побач на іканастасе. І, вядома ж, іконы Збавіцеля і Божай Маці, Андрэя Первазванага, Хрысціцеля ўсяе Русі князя Уладзіміра і прападобнай Ефрасінні ігуменні Полацкай...

Не так даўно прыехала да Беразоўскага здымачная група тэлебачання, зрабіла пра яго фільм. Але ён гаварыў пра гэта без радасці.

— Думаў, што размова пойдзе пра тое, як будаваў капліцу, пра Бога, а мне фактычна зрабілі рэкламу... Чалавеку веруючаму рэклама непатрэбна.

Тут трэба патлумачыць: таму, хто жыве ў Хрысце, непатрэбная і слава.

Іншая справа — гаварыць пра веру, пра Бога, пра бяссмерце нашай душы не як пра цуд, а проста як пра самае святое ў грамадстве. Ды не ўмеем. Ну, вядома ж, Барыс Андрэевіч сам нікога не вылечвае. Гэта было б "верхам велічы" — так заявіць для яго.

Усё наадварот. Яго "я", яго "эго" настолькі пастаўлена "нічым" у Хрысце, душа настолькі нічога не просіць ва Усявышняга сабе, што атрымлівае па веры і любові "міласць Божую"... таму, за каго просіць.

Проста?

Нічога не бывае прасцей. Але выканаць... складана. Трэба перамагчы страсці, гордасць, грахі... Трэба запоўніць душу дабром.

— Чаму ж, Барыс Андрэевіч, на капліцы зверху і знізу крыж праваслаўны, а пасярэдзіне — усяленскі? — пытаю ў яго.

— Так я ўбачыў, — быў адказ.

— Так і павінна быць?

— Так. Пойдзем наверх. Пакажу вам звон!

На другім паверсе капліцы, наверсе, маленькая званіца.

Дванаццаць разоў кожны дзень Барыс Андрэевіч б'е ў звон. Голас яго, звон разносіцца далёка.

Які вынік? "Хуткія дапамогі" забылі дарогу ў навакольныя вёсачкі. Вясёлым, бясстрасным гукам звон вылечвае: радуе, натхняе, весяліць душу... Нябачна нібыта, а нагадвае пра Бога.

Лячыліся тут, у капліцы, і ўрачы. Вылечваліся... Анатоль з Чэрвеня прывёз да Барыса Андрэевіча маці з рожыстым запаленнем. Тыдзень была тэмпература, а пасля першай малітвы палягчэла, але трэба было б яшчэ і яшчэ... Многія лечацца месяцамі, гадамі. У залежнасці ад таго, што з чалавекам.

Пры ўсім гэтым, верагодна, і чалавек, які звярнуўся ў Булынку, у капліцу да Беразоўскага, павінен і сам нібыта пераасэнсаваць сваё жыццё, падумаць, што тварыў — дабро, зло?

За зло ўсё роўна давядзецца расплачвацца рана ці позна.

Як ўсвядоміць і пакаяцца і больш не тварыць зла?

Стоячы на каленях перад святымі, Барыс Андрэевіч дапамагае і ў гэтым — зразумець сэнс жыцця, ісціну, распазнаць сапраўднае дабро. Галоўнае ж у жыцці — здаецца, Алесь Адамовіч напісаў — адрозніваць "дабро ў дабры..."

— Я так смяялася, — нагадала Ядвіга Станіславаўна. — Вось на тым слупку пад яблыняй цалаваліся дзве птушачкі. Адна сядзела на слупку, а другая лятала над ёю, лятала і... цалавала. Потым у малінніку я знайшла гняздзечка: птушка сядзела на кладцы. І трэба ж, якая сіла жыцця: нікога яна не баіцца, трэба ёй вывесці птушанят — вось і ўсё... Не страшны нават суседскі рыжы кот, празваны Чубайсам.

Ядвіга Станіславаўна даверае мне сямейны альбом. Побач са сваімі дзецьмі, якія сталі "эмігрантамі нехаця" — жывуць у Санкт-Пецярбургу і Рызе, побач са здымкамі ўнукаў — удзячныя хворыя, якія прысылаюць фатаграфіі, напрыклад, сваіх доўгачаканых дзяцей. Урачы паставілі крыж: маці быць не можа! Але ў капліцы, наадварот, далі веру і надзею — усё будзе. І вось маці шчаслівая, яе Насці тры месяцы!

Беразоўскаму радасць: яшчэ адна душа знайшла шчасце, а другая — зямны прытулак.

Людзі часта ў адчаі, калі не лечыцца цяжкая хвароба, шукаюць сабе любых дактароў, толькі б гаварылі, што дапаможа. Ці шукаюць заакіянскае лякарства — вераць у лекі. Шукаюць траўнікаў, гамеапатаў, псіхатэрапеўтаў, экстрасенсаў. І нават чараўнікоў. Часцей гэта адбываецца з тымі, у каго "хвароба стагоддзя". Назначылі хіміятэрапію, значыць, усё? Ну а калі прамянёвую — тым больш? А калі ўжо прапаноўваюць аперацыю...

У Булынцы сустрэла я дзвюх Ларыс, якія лечацца ў Бараўлянах. Барыс Андрэевіч не адмаўляе ў малітве нікому.

— А што вам бліжэй у людзях? — пытаюся ў Барыса Андрэевіча на развітанне.

— Поўнае давер'е...

Ён не адпускае мяне, запрашае абедаць.

Цікава, як харчуецца гэты чалавек.

Барыс Андрэевіч памаліўся перад ядой.

Ядвіга Станіславаўна падала нам на першае смачны суп з судака. Мяса ў гэтым доме не ядуць вельмі даўно. І солі кладуць мала. Крайне рэдка, можа, на год раз Барыс Андрэевіч з'ядае кавалачак белага курынага мяса. Аднак ён папрасіў чырвоны перац — горкі— пасыпаў яго ў суп. На другое — грыбная салянка, толькі што прыгатаваная, і гародніна: бульба, памідоры — усё з агарода. Пад вялікім круглым сталом, на верандзе, дзе мы абедалі, нібыта шары, ляжала з дзесятак жоўтых і паласатых гарбузоў. Гарбузы гэтыя, патлумачыла Ядвіга Станіславаўна, для прасянай кашы. Каша з гарбузом — старадаўняя страва нашых прадзедаў. Але ў асноўным гарбузы пойдуць на корм суседскай карове. Салодкія выраслі, сакавітыя, на вялікай вадзе. Добрае, салодкае будзе і ў каровы малако...

Пасля яды Барыс Андрэевіч памаліўся яшчэ...

— Я пакажу вам самае галоўнае ў садзе, — сказаў ён мне. — Паглядзіце...

...Скрозь стары-стары сад, скрозь пераблытаныя старадаўнімі іерогліфамі галінкі дрэў, нібы тонкія сонечныя праменьчыкі, прабіваліся новыя парасткі моцных маладых яблынь, сліў, груш, якія "прышчапіў" Барыс Андрэевіч.

— Гэта і ёсць наш час! Святасць скрозь старасць, вопыт і дрымоту ўсіх часоў?

— Так...


Фота Аркадзя Мікалаева, БелТА.

**У час IX міжнароднай выставы "Белагра-99" у Мінску наведвальнікі маглі любавацца прыгажосцю спартыўных коней конезавода імя Даватара, што знаходзіцца ў мястэчку Ратамка, а дзеці — пакатацца на поні.**




«РОДНАМУ СЛОВУ» — ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ

# МОВА — НЕАБСЯЖНЫ АКІЯН

***Чытачам нашай газеты вядомы аўтар нататак Уладзімір Содаль. Тэма разважанняў пісьменніка — родная мова. Уладзімір Ільіч — нязменны вядучы тэлечасопіса "Роднае слова", якое блаславіў на жыццё сам Кандрат Крапіва. Сёлета тэлечасопісу споўнілася 20 гадоў. З гэтай нагоды адбылася размова Леаніда КАЧАНКІ з пісьменнікам.***

**— Уладзімір Ільіч! Чым патлумачыць даўгавечнасць вашага тэлечасопіса?**

— Даўгавечнасць яго ў вечнасці тэмы. Мова — гэта ж неабсяжны акіян. Чым больш плаваеш па ім, тым больш робіш адкрыццяў і для самога сябе, і для гледача.

**— Дваццаць гадоў пры адной і той жа перадачы... Не надакучыла?**

— А ні-ні... Для мяне гэтая перадача — сэнс жыцця... Я, дзе ні іду, што ні раблю, думаю пра яе... І як пра яе не думаць, калі яна скрозь нагадвае пра сябе. Слова ж у нашым жыцці ўсюды: яно і ў сонцы, яно і ў хмары, яно і ў ветры... От я, што ні бачу, усё прыкідваю на "Роднае слова"... Сустрэў, скажам, цікавага чалавека, то як жа не запрасіць яго ў "Роднае слова"? І гэтак скрозь і праз усе дваццаць гадоў...

**— Колькі слоў пра тое, як пачыналася "Роднае слова".**

— У маім архіве захавалася картка-пашпарт, дзе занатаваны ўвесь ход стварэння перадачы. Гаворка пра перадачу распачалася ў лютым 1979 года.

**— Якая ставілася мэта?**

— Мэта перадачы вызначана ва ўстаноўчай запісцы. Яна, між іншым, таксама ацалела ў маім архіве, то я і працытую: "Часопіс мае на мэце асвятляць пытанні развіцця беларускай мовы, яе багацця, глыбока народнай сутнасці, сувязяў з рускай мовай і культурай, непасрэдную сувязь мовы з падзеямі і патрэбамі дня, навінкі мовазнаўства, каляндарныя даты. У перадачы мяркуецца расказваць пра вядучых мовазнаўцаў рэспублікі, пра выкладанне мовы ў школах, пра цікавасць да яе ў славянскім свеце, закранаць шэраг іншых пытанняў, мяркуецца пастаянна весці рубрыку "Чаму мы так гаворым?", "Чаму так названа?" і, нарэшце, — рубрыку жывой мовы, дзе гучалі б узоры народнай мовы".

**— Уладзімір Ільіч, чаму кіраўніком і вядучым тэлечасопіса прызначылі вас?**

— Не ведаю. Можа таму, што я перад нашай моваю ніколі не пакрывіў душою, быў перакананы, што наша мова такая ж людская, як нямецкая, французская альбо іншая якая. "Роднае слова" ж узышло на блакітным экране з прыходам на пасаду старшыні Дзяржкамітэта тэлебачання і радыё Генадзя Бураўкіна. Тады ж з'явілася беларуская "Калыханка", футбольныя рэпартажы на нашай мове і многа іншае...

Тэлевізійны часопіс нібы прарываў моўную блакаду. Не дзіва, што перадачу шчыра падтрымалі гледачы сваімі лістамі.

**— Ці шкадуеце хоць калі пра што?**

— Асабліва ні пра што не шкадую. Хіба пра тое, як жыў у Мурманску, то не запісваў ад сваіх землякоў, якія жылі ў запалярным горадзе, іхнюю мову, мову іхніх вёсак, легендаў і паданняў з іхніх мясцін... Гэта былі б вельмі цікавыя запісы. І самім мурманскім беларусам было б гэта карысна. Яны іх вярталі б да радзімы, не дазвалялі забывацца, хто



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# «Я НЕ ПЛАКАЛА, БО НЕ ЎМЕЮ...»

## ЛІСТЫ Наталлі ВІШНЕЎСКАЙ ДА Сяргея ГРАХОЎСКАГА

*Недзе ў канцы сямідзесятых рыхтаваўся да друку чарговы пісьменніцкі даведнік. Разам з нешматлікімі "старажыламі", якія цудам засталіся ў жывых, у падрыхтоўцы гэтага выдання прымаў удзел і Сяргей Грахоўскі. Тады С. Грахоўскі і ўзяўся напісаць пра вядомага ў дваццатыя-трыццатыя гады паэта-маладнякоўца, свайго першага "вуснага рэдактара" і стрыечнага брата Янку Бобрыка, які загінуў у час вайны. Сяргей Іванавіч ведаў, што ў Ленінградзе жыве ўдава паэта, таксама былая маладнякоўка Наталля Вішнеўская. Праз Алеся Звонака быў здабыты адрас, і хутка паляцеў першы ліст. Неўзабаве прыйшоў адказ. Завязалася перапіска...*

*Лісты Н. Вішнеўскай (захоўваюцца ў БДАМ ЛіМ) цікавыя не толькі невядомымі выпадкамі і звесткамі з жыцця Я. Купалы, Я. Коласа, А. Дудара, П. Труса і некаторых іншых пісьменнікаў. Лісты каштоўныя перш за ўсё разважаннямі чалавека, які на працягу пяцідзесяці гадоў жыў на чужыне, не змог прадоўжыць сваю літаратурную дзейнасць, але Бацькаўшчыну не забыў, "сумаваў па роднай Нямізе". Як пісала Н. Вішнеўская, "неяк скроены чалавек, што яго цягне на старае папялішча", хоць калісьці і "бралі [мяне тут] за горла..."*

**Леанід МАРАКОЎ.**

**20 снежня 1979 г.**

"Спачуваю Вашаму расчараванню ад Глуска (радзіма С. Грахоўскага і Я. Бобрыка. — **Л. М.**). Канешне ж, час бяжыць так, што ад нашага дзяцінства нічога не застаецца. Я вось таксама ўвесь час імкнулася пабываць у сваім дзяцінстве — Куйбышаўскай вобласці. Ёсць там такое вялікае сяло Ісаплы, якое калісьці Пётр I купіў у татар за два фунты чаю.

Нас туды занесла з Літвы ў 1915 годзе, калі беглі ад немцаў і дзе пражылі да 1922 года. Само сабою і ўражанняў ад таго часу застаўся цэлы кораб. Вось туды і пацягнула мяне. Але ў час адумалася. Нікога знаёмых там ужо не засталося. Лясы дубовыя, што былі на высачэзных гарах і дзе яшчэ ў [19]15 годзе бадзяліся сапраўдныя разбойнікі, мабыць, павысякалі. Кавыльныя стэпы, мабыць, зааралі, і, канешне, ад цудоўнае дзіцячае казкі нічога не засталося. Вось можа таму мне і ў Мінск ехаць страшнавата. Што я там застану? Чужы, прыгожы горад, і нікога, хто помніць мяне, апрача Вас ды Вольгі Іванаўны (жонка брата Янкі Бобрыка Мікалая, адна з 4-х дачок І. Зенюка, настаяцеля Козыраўскай царквы ў Мінску). Разумеецца, гэта не прычына, і абавязкова прыеду, хаця б проста праехаць уздоўж і ўпоперак любімага горада.

А ведаеце, у мяне тут некалькі гадоў назад такая цяга была перабрацца ў Мінск, што ледзь не пачала абмен, але потым спалохалася адарвацца ад дзяцей..."

**17 лютага 1980 г.**

"Усякая памяць аб блізкім чалавеку дужа дарагая. Я не плакала, бо не ўмею. Але зноў забалела душа. Я дагэтуль не магу дараваць сабе, што не вывезла Яна (Я. Бобрык. — **Л. М.**) гвалтам. Не хацеў ехаць. Спачатку баяўся, што будзе потым, ці не страцім гэтую халупу. Потым сарваўся добраахвотнікам на фронт. Яшчэ перад вайной я ўсё яго прасіла прайсці пераатэстацыю ў РВК. Ён мог быць аднесены да камсаставу. Не захацеў. "Мяне не мабілізуюць па здароўю". Ну і ўрэшце пайшоў салдатам. А які з яго салдат быў, калі яму і вінтоўку цягаць было нельга. У фінскую вайну яму ж зрабілі аперацыю... Божа мой, колькі я тады гора хапіла! Адвезла ў бальніцу безнадзейнага. Урачы былі ўсе чужыя, ваенныя. Баяліся рэзаць і шэсць гадзін трымалі яго ў такім цяжкім стане. Нарэшце адзін урач адважыўся на аперацыю. І вось трое сутак я праседзела каля пасцелі, чакаючы апошняга слова...

Колькі давялося перажыць. Вярнулі яго з таго свету, яшчэ не ачуняў як мае быць, і на табе — салдат. Ну і вынік не прымусіў сябе чакаць. Праз месяц зноў шпіталь. Праляжаў месяц, праз тры тыдні службы зноў шпіталь. Забраў яго да сабе камісар гэтага шпіталю і трымаў там да вясны. Ну а вясной галадуха дала аб сабе знаць.

Дырэктар дзіцячага дома, дзе я тады працавала, прапанаваў ехаць нам усім. Хацеў зрабіць Яна дырэктарам або выхавацелем. Абы толькі выехаць з горада, але Ян не захацеў — "умру, но в Ленинграде". Была магчымасць выехаць з тэатрамі, таксама не схацеў.

Я ж увесь час таксама не хацела выязджаць. Працавала тады ў райкоме, загадвала бібліятэкай. Бамбёжкі, абстрэлы. Але дух быў бадзёры — работа ішла сваім чарадом. Так працягвалася да палавіны зімы. Потым яшчэ ўвосень перасталі хадзіць трамваі і стала цяжка. Хадзіць мне было 8 кіламетраў праз увесь горад, бліжэй к фронту. 125 грамаў хлеба і нічога больш — было дужа цяжка. Але прахадзіла я так да красавіка [19]42 года, калі доктар катэгарычна забараніў мне такія прагулкі. Проста сказаў, што я аднойчы застануся на дарозе. Вось тады я і перабралася бліжэй, у дзіцячы дом. Тут таксама хацела заставацца, але дырэктар літаральна выпхнуў мяне ў эвакуацыю. Многа людзей ён выратаваў такім чынам. А вось Ян не паехаў.

Гэта балячка на сэрцы не загаіцца! Страшна крыўдна, што не маю яго магілкі. Але калі ўспомню, як вывозілі на машынах ледзь прыкрытыя трупы і клалі іх у траншэі, прыходзіцца маўчаць і не скардзіцца. Яшчэ ў [19]46 годзе мы са студэнтамі раўнялі гэтыя страшныя траншэі, засыпаючы іх. І хто яго ведае, на якія могілкі трапіў Янparam. Так вось і засталося ўспамінаць да болю..."

**9 сакавіка 1981 г.**

"І сама па сабе памяць пра Купалу — светлы ўспамін. Я прыпамінаю ўсю яго нейкую непасрэднасць. Аднойчы, помню, цэлая кампанія — Дудар, Александровіч, здаецца, Баранавых і Хадыка — накіравалася з Купалам да яго дадому. Цёці Уладзі не было, і ён хацеў нас пачаставаць чым-небудзь. Прыпомніў, што ёсць яблыкі, якія прыслалі яму з калгаса, і загадаў хлопцам цягнуць скрынку з веранды. Двое схапілі вялізную скрынку, прывалаклі і ўзгрувасцілі на паліраваны стол у сталовай. Я паспрабавала пратэставаць, дзе там. Усе, ды і ён таксама, былі пад чаркаю. Ну [і] пачаўся пачастунак спелай, жоўтай антонаўкай.

Чамусьці запомніўся гэты эпізод...

А потым [Я. Купала] у самы цяжкі для мяне час, калі быў высланы Дудар, аддаў мне сваю пуцёўку на ... (неразборліва. — **Л. М.**), куды мы ездзілі разам з А. Гурло і П. Трусам.

Усё гэта прыпомнілася пасля Вашых успамінаў. Харошы быў чалавек. Толькі я дагэтуль не ведаю, як ён памёр і дзе. Нешта гаварылі пра Маскву, ці праўда гэта?"

*(Працяг будзе).*



*Менск, Дом пісьменніка, 1920-я гады. Н. ВІШНЕЎСКАЯ з В. МАРАКОВЫМ, В. ЗАЛУЦКІМ, М. НІКАНОВІЧАМ, В. КАВАЛЁМ, М. ЛУЖАНІНЫМ, А. ЗВОНАКАМ.*

яны і адкуль. Не зрабіў гэтага я, то, можа, маё, хай запозненае, прызнанне прыдасца некаму іншаму.

**— Што вам не падабаецца ў вашай працы?**

— Як гэта ні дзіўна, не люблю гаварыць. Гаварыць маналогам. Я люблю дыялог... Тут пачуваю сябе, як рыба ў вадзе.

**— Ці хвалюецеся на здымках, перад здымкамі?**

— Хвалююся: кожны выхад у эфір — гэта як экзамен. Ноч перад здымкамі заўсёды трывожная, неспакойная. Кладуся ў ложак, як начынены трацілам снарад. Але вось пачаліся здымкі. Эпізод за эпізодам з мяне пераходзіць на стужку, на камеру, і я спакваля пачуваю сябе вольным. А напрыканцы здымкаў — і гара з плеч.

**— Што ўдалося "Роднаму слову"?**

— Ды шмат чаго. А галоўнае, яно абуджала і абуджае ў гледачоў цікавасць да роднага беларускага слова. Гэта было і застаецца яго галоўнай мэтай. Дарэчы, плён "Роднага слова" падсумаваны нейкім чынам у адпаведным артыкуле энцыклапедыі "Беларуская мова".

**— Што турбуе вас у нашай моўнай гаспадарцы сёння?**

— Выключна ўсё: і прэстыж нашай мовы, яе аўтарытэт, і як мы пішам, і гаворым... Здзіўляе мяне і такое: мове вучацца ўсе, а вось мала хто апантаны словам. Абыякавасць да слова, моўная глухата пануе сярод шмат якіх журналістаў. Мне гэта незразумела.

**— Што, на вашу думку, трэба зрабіць, каб наша мова набыла паважлівыя адносіны ў грамадстве?**

— Нічога асаблівага. Пра яе трэба паважліва думаць і, галоўнае, на ёй неабходна гаварыць.

**— Якія планы ў "Роднага слова"?**

— Я ў такім веку, што мне пара падумаць пра творчую змену. Хацелася, каб "Роднае слова" з часам увасобілася ў тэлевізійны клуб сяброў "Роднага слова" — з гульнямі, вікгарынамі. Але гэта форма падуладная толькі маладой і апантанай асобе. Вядома, тут прыдаўся б і мой вопыт.

## СВЯТЛО «БРАСЛАЎСКІХ ЗАРНІЦ»

Па запрашэнню гарадскога аддзела культуры ў Браславе на фестывалі "Браслаўскія зарніцы" пабывалі сябры таварыства "Уздым", ансамбль "Купалінка" гэтага таварыства і Цэнтра беларускай культуры горада Даўгаўпілса, дзе прынялі ўдзел у канцэрце на лясной паляне разам з многімі калектывамі з розных мясцін Беларусі. За ўдзел у канцэрце ансамбль "Купалінка" быў узнагароджаны дыпломам і памятным сувенірам. На канцэрце прысутнічалі генконсул Беларусі ў Даўгаўпілсе В. Марковіч і консул В. Сысоеў.

Беларусы Даўгаўпілса шчыра ўдзячныя суайчыннікам з Браслава за магчымасць не толькі паказаць свой талент, але і зазірнуць у блакітныя вочы Айчыны.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

З НОВЫХ ВЕРШАЎ



**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

### СЛОВА

Магчыма, некалі разгорне нашы кнігі
Нашчадак праўнука майго ці не майго,
Забыўшы ўсе адвечныя інтрыгі,
Успомніць словы ўсе да аднаго.

Развеюцца пазаддзе і палова,
І не адно стагоддзе прабяжыць.
Не будзе нас, ні ўладароў, а Слова
Жыло, жыве і будзе вечна жыць.

*26/V—99.*

* * *

Мяне хрысцілі чорныя маланкі,
Я зведаў, што такое боль,
Блакітныя і сонечныя ранкі,
Спякоту, маразы і золь.
Хлусні наслухаўся з маленства,
Здаецца, ўсё спазнаў да дня:
З хлуснёю ў праўды падабенства,
Як д'ябал і анёл — радня.
Я добра бачу ўсё і чую,
Ад страху, сцяўшыся, маўчу...
Як толькі ў полі заначую,
На поўны голас закрычу
Ад болю, сцятага сумлення
І ў горкім горы не зграшу,
У змроку, стаўшы на калені,
Адхлання ў Бога папрашу.

*28/III — 99.*

### АДДАНАСЦЬ

Без жалю і адчаю гавару:
Надыдзе час і я памру,

Пакіну свет, пакіну дом,
З жабрацкім развітаюся дабром,

Пакіну ўсе пакуты і трывогі,
І на парозе вечнае дарогі

Пакіну ашуканства і хлусню,
Бо не умеў маніць і не маню.

Застаўся гонар у мяне адзін,
Што я сваёй зямлі грамадзянін,

Што ні ад кога не залежу, —
Належаў Беларусі і належу

І на тым свеце застануся
Адданы толькі Беларусі.

*29/III—99.*

* * *

Калісьці ўчэпістыя рукі
Мардавалі і мяне дарма,
А іх шкадую, хоць і зведаў мукі,
Што ў іх сумлення з розумам няма.

* * *

Я не знаёмы з пыхаю,
Таму пішу, як дыхаю,
Быць модным не імкнуся,
Бо задыхнуся.

*28/V — 99.*

### ЗАЎЖДЫ АДНА

Зліналі здымкі любых і каханых,
І воблікі забыліся даўно,
Часамі ў памяці, што у рубцах і ў ранах,
Яны мільгнуць, як у нямым кіно:

Пад месяцам у росным полі
Ты узнікала, як блакітны цень,
І верылася, што ў жыцці ніколі
Нас не разлучыць самы змрочны дзень.

Неспадзявана сцежкі і дарогі
Нас развялі у розныя бакі.
Я клікаў, я шукаў да змогі,
Хоць адцвіталі мальвы і жаркі.

То ў вырай, а то з выраю ключамі,
Галосячы, ляцелі жураўлі,
А я ўсё марыў доўгімі начамі
Знайсці твой след, што сцюжы замялі.

Хоць грэх, але часамі залятали
І да мяне "галубкі" да відна,
Нібы замовы, казкі мне шапталі,
Але ў душы заўжды жыла адна,

Што ўпершыню мяне зачаравала
Кароткаю пяшчотнай варажбой.
Калі б зязюля мне накукавала,
Дзе ты цяпер, пайшоў бы за табой.

*19/II — 98.*

**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**

# «БЕЛАРУСЫ РАСІІ» Ў БАРЫСАВЕ І ДРУЦКУ

АДЫХОДЗЯЦЬ у гісторыю апошнія гады другога тысячагоддзя. Рубеж стагоддзяў у летапісе Беларусі і Расіі будзе адзначаны многімі важнымі падзеямі, сярод якіх стварэнне нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі".

Прайшло крыху больш года з часу апублікавання ў беларускім друку пісьма вядомых грамадскіх дзеячаў і вучоных Масквы з прапановай святкавання юбілеяў старажытных гарадоў — Друцка і Барысава. Ініцыятыва маскоўскіх беларусаў была падтрымана кіраўніком дзяржавы, выдадзена пастанова Савета Міністраў Беларусі "Аб святкаванні 1000-годдзя Друцка". Важным этапам у падрыхтоўцы да юбілею стала навуковая канферэнцыя, што адбылася нядаўна ў Барысаве і Друцку. "Беларусаў Расіі" на канферэнцыі прадстаўляў заслужаны работнік транспарту Расійскай Федэрацыі, Генеральны дырэктар АА "Раско" М. Лобач. Выступленне Мікалая Рыгоравіча было прысвечана, галоўным чынам, праблемам эканамічнай інтэграцыі двух дзяржаў, у прыватнасці, развіццю інфраструктуры турызму.

Прысутнасць на канферэнцыі архіепіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзімітрыя і іншых іерархаў і святароў Праваслаўнай царквы, іх цікавасць да гісторыі Друцка абумоўлены тым, што царква Святой Багамаці, пабудаваная ў старажытным горадзе каля 1000 гадоў назад, была адным з самых старадаўніх храмаў на тэрыторыі Беларусі. Таму аднаўленне старажытнага храма, на думку мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха усяе Беларусі Філарэта, стане вялікім укладам у адраджэнне праваслаўнай духоўнай традыцыі нашага народа.

Адраджэнню духоўных традыцый прысвяціў сваё выступленне і галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" Г. Пашкоў. Ён падкрэсліў, што ў Друцку на месцах згарэлых і разбураных храмаў будуць створаны новыя храмы духоўнасці — школа (ужо пабудавана) і царква (яе ўзвядзенне пачнецца ў бліжэйшы час). Усе жадаючыя змогуць унесці свой уклад у гэтую высакародную справу, а таксама ў стварэнне сучаснай інфраструктуры старажытных гарадоў Беларусі. Вялікую цікавасць у прысутных выклікалі выступленні старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі В. Ляўко, дырэктара музея гісторыі горада Барысава Н. Раховіч, краяведа падпалкоўніка Г. Новікава (г. Барысаў), а таксама іншых удзельнікаў навуковых чытанняў, прысвечаных юбілеям старажытных гарадоў.

У сувязі з маючым адбыцца 200-годдзем напалеонаўскіх войнаў і 190-годдзем гістарычнай бітвы на Бярэзіне мяркуецца стварыць сучасную турыстычную інфраструктуру Барысава і Друцка, а таксама іншых гарадоў, прыцягнуць у гэтых мэтах французскі і расійскі капітал. Удзельнікі чытанняў прапанавалі выпрацаваць дзяржаўную праграму "Старажытныя гарады Беларусі". Адраджэнне старажытных гарадоў, якія па шэрагу гістарычных і эканамічных прычын прыйшлі ў заняпад, дапаможа захаванню духоўнасці нашага народа, будзе садзейнічаць патрыятычнаму выхаванню моладзі. Гэтая ідэя была падтрымана адным з кіраўнікоў Нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы сустрэчы III тысячагоддзя і 2000-годдзя хрысціянства, старшынёй Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей А. Білыкам. А вынік навуковых чытанняў падвялі яго словы аб тым, што вучоныя і грамадскасць Беларусі і Расіі могуць і павінны ўнесці больш істотны ўклад у захаванне духоўных традыцый брацкіх народаў, у аднаўленне нашых старажытных храмаў і гарадоў.

**Рыгор ЛОГІНАЎ.**

# ЭСТОНСКАЯ «СПАДЧЫНА»

**Пра беларуска-эстонскае асветніцка-культурнае аб'яднанне "Спадчына", якое вось ужо два гады даволі актыўна дзейнічае ў горадзе Нарва, наша газета ўжо пісала неаднаразова. Гэта і не дзіўна: тая праца, якую здзяйсняюць актывісты "Спадчыны", уражвае і, зразумела, заслугоўвае таго, каб нашы суграмадзяне як у Беларусі, так і ў іншых краінах ведалі пра яе.**

**Нядаўна мне ўдалося пазнаёміцца з кіраўніком аб'яднання Таццянай КАРАТКЕВІЧ. Яна прыязджала ў Мінск па справах "Спадчыны": з мэтай запрасіць у Нарву мастацкія калектывы для ўдзелу ў свяце горада, а заадно параіцца, выказаць свае погляды на варыянты ўзаемадзеяння членаў аб'яднання з этнічнай радзімай. Вядома, я не мог прапусціць магчымасць даведацца больш пра дзейнасць беларусаў у Нарве. Гэта цікава ўжо таму, што ў паўднёва-ўсходнім рэгіёне Эстоніі пражываюць 7 тысяч нашых суайчыннікаў, з якіх трэць — у Нарве.**


Таццяна КАРАТКЕВІЧ.

Але перш чым расказаць пра працу непасрэдна "Спадчыны", спадарыня Караткевіч намалявала карціну ўзаемаадносін эстонскіх уладаў з суполкамі нацыянальных меншасцяў. Паводле яе слоў, у краіне пытанні нацыянальнай палітыкі вырашаюцца на ўзроўні дзяржаўнай праграмы "Інтэграцыя". І калі да нядаўняга часу сутнасць праграмы зводзілася да інтэграцыі нацыянальных меншасцяў у эстонскае грамадства, то зараз прыназоўнік "у" нібыта знік, што карэнным чынам змяніла і сутнасць праводзімай палітыкі. Цяпер адбываецца раўнапраўнае супрацоўніцтва нацыянальных суполак з эстонскім грамадствам.

На сённяшні дзень у краіне пытанні міжнацыянальных зносін каардынуе Міністэрства па народанасельніцтву. Кіраўніцтва міністэрства не цураецца кантактаў з прадстаўнікамі суполак, таму яны паміж сабой знаёмыя. А гэта, вядома, дазваляе прасцей вырашаць магчымыя праблемы. У Эстоніі пастаянна дзейнічае так званы "круглы стол" пры прэзідэнце нацыянальных меншасцяў. Ёсць падобнае аб'яднанне і ў паўднёва-ўсходнім рэгіёне Эстоніі, якое так і называецца "Іда-Вірумас". Дзейнічае "круглы стол" і пры ўездным старэйшыне. Яго зараз узначальвае старшыня беларускага таварыства ў Йыхве Маргарыта Астравумава. Акрамя гэтага існуе Каардынацыйны савет нацыянальных меншасцяў непасрэдна ў Нарве. Яго ўзначальвае прадстаўнік татараў Рашыд Ізмайлаў.

У апошняе аб'яднанне ўваходзяць 13 нацыянальных суполак, якія дзейнічаюць у Нарве (акрамя карэйскага таварыства). Дарэчы, беларусы, зарэгістраваўшы два гады таму "Спадчыну", былі ўжо дванаццатымі. Такім чынам, беларуская суполка дзейнічае не адасоблена, а ў непасрэдным кантакце з іншымі, што, паводле выказванняў спадарыні Караткевіч, моцна ўзбагачае членаў "Спадчыны".

Скарачэнне дзяржаўнага бюджэту Эстоніі пасля прыходу да ўлады новага Кабінета Міністраў ударыла не толькі па мясцовых пенсіянерах, але закранула ў тым ліку і нацыянальныя суполкі. І тым не менш нацыянальныя таварыствы ўжо атрымалі ад эстонскай дзяржавы пэўнае фінансаванне. Праўда, памеры грашовых сродкаў мізэрныя: ад 4 да 7 тысяч крон. Беларусы, дарэчы, як найбольш актыўныя, атрымалі сем тысяч крон.

Вядома, для паўнацэннай дзейнасці гэтых грошай не хапае. Таму выкарыстоўваюцца іншыя магчымасці. Напрыклад, пішуцца заяўкі ў розныя фонды на выдзяленне грантаў. Так, мінулагодні праект "Спадчыны" "Беларускі падворак" фінансаваўся менавіта такім чынам: аб'яднанне атрымала грант ад фонду Міністэрства культуры і пэўнае фінансаванне непасрэдна ад міністэрства. "Такім чынам, калі працаваць і прымушаць заўважаць сябе, то можна нечага дасягнуць, хаця гэта і не надта лёгка", — прызнаецца спадарыня Караткевіч. "Спадчына" супрацоўнічае таксама з арганізацыяй "Чудскі праект", якая аказвае дапамогу недзяржаўным і няўрадавым арганізацыям Эстоніі. Нягледзячы на невялікі вопыт, беларуская суполка мае намер удзельнічаць у праекце "Нарва-2000". Словам, беларусы ў Нарве ўсяляк імкнуцца, каб іх заўважылі і з імі лічыліся.

Вось і да Дзён горада, якія звычайна адзначаюцца летам, беларусы рыхтаваліся вельмі грунтоўна, прыехаўшы ў Мінск з запрашэннем, каб у свяце ўзяў удзел які-небудзь вядомы мастацкі калектыў нашай краіны. Разумеючы, што ўласных намаганняў недастаткова, "Спадчына" і такім шляхам імкнецца ўразіць і запомніцца эстонскай публіцы. Прынамсі, этнічная радзіма ідзе насустрач пажаданням прадстаўнікоў дыяспары. У Нарве пабывалі ансамбль "Сябры", гурт "Крыві", майстры Лепельскага дома рамёстваў. Там праходзіла выстава творчай суполкі "Пагоня" пры Саюзе мастакоў.

Усе гэтыя намаганні накіраваны на тое, каб пазнаёміць жыхароў Нарвы з беларускай культурай. Ды што граху таіць, ёсць імкненне разбудзіць і тых этнічных беларусаў, якія асіміляваліся да расійскіх ці эстонскіх культурных традыцый, забыўшыся на свае сапраўдныя карані. Т. Караткевіч прызнае, што, напрыклад, існуе праблема мовы. Беларусы ў Нарве пераважна размаўляюць на рускай мове, хаця гавораць пра тое, што дзецям неабходна вучыць эстонскую і англійскую. Маўляў, гэта больш перспектыўна. Кіраўнік "Спадчыны" з такім падыходам ніяк не можа пагадзіцца. І ёй удаецца паступова падобнае стаўленне мяняць. Зараз у горадзе працуе нядзельная беларуская школа. У некаторых сем'ях ужо з'явілася разуменне неабходнасці вывучэння роднай мовы, узнікла цікавасць да яе. А самае прыемнае, бадай: да мовы цягнуцца дзеці...

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# «ПРУЖАНСКІ ПАЛАЦЫК»




Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.



**Завершана рэстаўрацыя будынка музея-сядзібы "Пружанскі палацык", узведзенага ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў стылі італьянскай загараднай вілы італьянскім архітэктарам Ланчам. Сядзіба гэтая па архітэктурным змешванні стыляў магчыма адзіная на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Будынак акружае тры гектары цудоўнага парку, любімага месца адпачынку гараджан. У гэтай гістарычнай сядзібе і размесціцца раённы краязнаўчы музей, музычная гасціная, экспазіцыя, прысвечаная паляванню і багаццю фауны краю.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак музея-сядзібы "Пружанскі палацык"; дырэктар музея Юрый КАЎШЫЛА і навуковы супрацоўнік Ірына ЯКМАН з экспанатамі для экспазіцыі; сімвалы музея — камін і скрыпка, гэта ўсё, што захавалася ад сядзібы.**



АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

## Уладзімір ГІЛЕП:

# “НАШЫ ПРАБЛЕМЫ ВЫРАШАЛЬНЫЯ”

***Беларускі фонд культуры існуе больш за дзесяць гадоў. Цяжка пераацаніць унёсак гэтай недзяржаўнай арганізацыі ў развіццё культуры. Колькі цікавых і разнастайных акцый прайшло пад эгідай БФК, колькі змястоўных выданняў, прысвечаных беларускай літаратуры і мастацтву, выйшла, колькі яшчэ важнага і значнага адбудзецца! Пра Беларускі фонд культуры, яго праблемы і праекты расказвае старшыня Уладзімір ГІЛЕП.***

— Я пераемнік Івана Чыгрынава — народнага пісьменніка Беларусі і першага старшыні Беларускага фонду культуры, які ўзначальваў арганізацыю на працягу дзесяці гадоў. І лічу за гонар працягваць праграмы, якія распачаты. Нягледзячы на цяперашні складаны час, эканамічныя цяжкасці, мы не скарацілі ніводнай праграмы, над якімі працаваў фонд культуры падчас Чыгрынава.

**— Назавіце, калі ласка, асноўныя вашы праграмы.**

— Гэта агульнавядомая праграма “Вяртанне”. Пры БФК працуе спецыяльна створаная камісія “Вяртанне” на чале з прафесарам Адамам Мальдзісам. Паралельна ідзе выданне кніг “Вяртанне”. Дзве былі выдадзены пры старшынстве Івана Гаўрылавіча, выйшла ў свет, ужо з маім удзелам, і трэцяя. Як мне падаецца, гэта вялікі, каштоўны ўнёсак фонду ў скарбніцу нашай культуры. Зараз мы ставім пытанне аб стварэнні пад дахам “Вяртання” ўжо не грамадскай, а дзяржаўнай камісіі, таму што наспеў час і неабходна мець дзяржаўную структуру, якая працавала б на гэтую праграму.

Другая праграма, вельмі патрэбная сёння Рэспубліцы Беларусь перш-наперш для падняцця свядомасці нашых людзей, — гэта праграма “Малыя гарады Беларусі”. Яна звязана з гісторыяй невялікіх мястэчкаў і гістарычных гарадоў. У пазамінулым годзе мы правялі фэст, прысвечаны Капылю і яго гістарычнаму мінуламу, дзе былі выдатныя кафельныя мануфактуры, куды па нашу кафлю прыязджалі з Расіі, Польшчы, Чэхіі, Германіі. Вывозілі гэтыя вельмі каштоўныя на той час вырабы ў розныя краіны Еўропы. На вялікі жаль, сёння гэтай вытворчасці ў Капылі няма. Ідэя фэсту была такой: прыцягнуць увагу інвестараў і з іх дапамогай аднавіць забытую вытворчасць знакамітай кафлі.

Праграму “Малыя гарады Беларусі” працягнула мастацка-гістарычнае свята “Слуцкія паясы”.

Мы рыхтаваліся да свята з вялікай адказнасцю. Арганізацыйны камітэт распрацаваў яго канцэпцыю. Адным з дамінантных момантаў з'явілася святкаванне 380-годдзя з дня адкрыцця першай школы Слуцка (былога езуіцкага калегіума, а пасля гімназіі).

Як вядома, Слуцк — далёка не шэраговы горад. Гэта адзін з нашых духоўных цэнтраў. Падчас правядзення свята адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная гісторыі знакамітага слуцкага пояса XVIII стагоддзя, які лёг у аснову творчасці многіх паэтаў — стаў сымбалем Беларусі.

Варта зазначыць, што запланавана правядзенне цэлага шэрагу падобных фэстаў у малых гарадах. Галоўная ідэя акцыі — не проста звярнуць увагу на забытыя гарадкі, але і паказаць неабходнасць вяртання і аднаўлення спадчыны, якая захавалася ў гэтых мясцінах. У кожным з такіх цэнтрыкаў і цэнтраў была свая адметная вытворчасць. Для Капыля — кафля і лозапляценне, для Клецка — ткацтва, для Івянца — ганчарства, для Гарадца — кавальства...

Калі мы здолеем падняць гэты пласт культуры і развіць знакамітыя рамёствы, якімі Беларусь вызначалася ў мінулым у Еўропе, дык, думаю, гэта будзе на карысць як нашай краіне, так і агульнаеўрапейскай і сусветнай культуры.

**— Вы адзначалі, што многія свае акцыі фонд ажыццяўляе сумесна з Міністэрствам культуры. Наколькі плённае такое супрацоўніцтва?**

— Акрамя вышэйпералічанага, БФК падвёў вынікі конкурсу “Бібліятэка як асяродак культуры”, які мы таксама праводзім сумесна з Міністэрствам культуры. У нас пытаюцца, ці часта мы працуем разам. Праграмы, якія я назваў, — гэта праграмы Беларускага фонду культуры. Але да іх усіх далучаецца, як правіла, Міністэрства культуры — і сваімі сродкамі (у нас, як у грамадскай арганізацыі, іх няшмат), і сваімі арганізацыйнымі магчымасцямі.

У нас існуе таксама цэлы шэраг не вельмі глабальных, як тыя, што я назваў, невялікіх праграм.

Пры Беларускім фондзе культуры працуе турыстычная арганізацыя “Аверс-тур”, якая сёння робіць спробу прыцягнуць замежных турыстаў у нашу краіну, зацікавіць Беларуссю, яе гістарычнымі мясцінамі, яе выдатнымі людзьмі і адначасова (што таксама немалаважна на сённяшні час) зарабіць для краіны валюту.

Нядаўна я ездзіў у Польшчу, дзе правёў перамовы з прадстаўнікамі трох маладзёжных турыстычных арганізацый. Між намі былі заключаны дамовы.

**— Якія яшчэ маршруты прапаноўвае ваша турыстычнае агенцтва для беларускіх і замежных аматараў даўніны і падарожжаў?**

— “Аверс-тур” прапануе розныя маршруты. Падарожжа, напрыклад, у Нясвіж звязана з такімі выдатнымі постацямі, як Купала, Колас, Каліноўскі, Касцюшка, Міцкевіч, Дамейка, Сыракомля, і іншымі знакамітымі дзеячамі культуры нашай краіны.

**— Цікава даведацца, што азначае слова “аверс”?**

— “Аверс” — гэта па-лацінску вонкавы бок медаля. Назваўшы так сваё турагенцтва, мы тым самым падкрэсліваем, што тыя, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі, маюць магчымасць з дапамогай нашых спецыялістаў бліжэй азнаёміцца з багатай спадчынай беларускага народа, атрымаць поўную і дакладную інфармацыю па прапанаваных маршрутах.

**— Што яшчэ карыснага прапануе Беларускі фонд культуры аматарам гісторыі?**

— Пры БФК створана бюро экспертызы рухомых помнікаў гісторыі культуры. Нашы спецыялісты робяць экспертызу абразоў, дэкаратыўна-прыкладных рэчаў, напрыклад, старадрукаў, музычных інструментаў і іншых твораў для дзяржаўных устаноў і для прыватных асоб. Зараз пачалі адкрывацца прыватныя антыкварныя кіёскі, магазіны, з'явілася многа збіральнікаў, калекцыянераў, якія хацелі б вызначыць як кошт гістарычны, мастацкі, так і кошт фінансавы той альбо іншай рэчы. Мы спадзяемся, што гэтая дзейнасць, а таксама праца “Аверс-тура” дасць, паколькі паслугі платныя, нейкі прыбытак Беларускаму фонду культуры на праграмы яго асноўнай дзейнасці. Увогуле, у нас многа розных цікавых задум і ідэй...

**— Поспехаў вам у гэтай высакароднай справе.**

**Гутарыла Ніна НАВІЦКАЯ.**

ФЕСТЫВАЛЬ “СЫМОН-МУЗЫКА”







Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.

**Дзесяты раз сабрала стаўбцоўская зямля юных музыкантаў на Рэспубліканскі фестываль “Сымон-музыка”. Яго адкрыццё адбылося на хутары Ласток, дзе правёў юныя гады Якуб Колас. Трыста пяцьдзесят юных талентаў з розных рэгіёнаў Беларусі прыехалі на свята. Гэта былі тры дні творчых зносін, сустрэч з вядомымі пісьменнікамі, артыстамі, кампазітарамі. А над усім панавалі народныя мелодыі, музыка, песні, танцы.**

**НА ЗДЫМКАХ: Сяргей МІХНО з вёскі Горкі Стаўбцоўскага раёна — славуты музыкант; хлеб-соль для ганаровых гасцей прымае сын Якуба Коласа Міхась МІЦКЕВІЧ; развітальны вальс.**

# БЕЛАРУСКІ АКЦЭНТ *УЛАДЗІМІРА МУЛЯВІНА*

***Славутага маэстра Уладзіміра Мулявіна я спаткаў у аэрапорце “Мінск-2” перад самай пасадкай на самалёт, які адлятаў на Шэнан. Мы аказаліся спадарожнікамі да Нью-Йорка. Наперадзе была Ірландыя, перасадка на амерыканскі “Боінг-767” і амаль васьмігадзінны пералёт праз акіян... Часу больш чым дастаткова, каб уволю нагаварыцца і пра ўсё распытаць майго спадарожніка.***

**— Уладзімір Георгіевіч, ці даводзілася вам даваць інтэрв'ю так высока над зямлёй?**

— Мабыць не. Гэта будзе першае.

**— Каторы раз накіроўваецеся ў ЗША?**

— Пяты.

**— Напэўна, кожны раз успамінаеце свае першыя гастролі ў ЗША? Калі я не памыляюся, “Песняры” былі першай савецкай групай, якую амерыканцы афіцыйна запрасілі да сябе на гастролі...**

— Так, савецкую і беларускую эстраду Амерыка адкрыла з “Песняроў”. У 1976 годзе мы далі некалькі канцэртаў у Нью-Йорку. “Вашынгтон пост” пісала тады, што гэта быў сапраўдны прарыў савецкага рока на Захад. Тыя першыя гастролі былі вельмі паспяховымі.

Пасля мы яшчэ двойчы з поспехам выступалі ў Штатах. Добры водгук атрымала праграма, прысвечаная 100-гадоваму юбілею Максіма Багдановіча, якую мы паказвалі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. На канцэрце прысутнічалі дыпламатычны корпус ААН, прадстаўнікі беларускай эміграцыі. Было прыемна, што беларускае слова прымалі так цёпла.

**— Ці сустракаліся вы з беларускімі эмігрантамі падчас канцэртаў?**

— О, вельмі шмат. У час першых гастроляў я здзівіўся, як добра яны ведалі нашы песні. Пасля канцэртаў абавязкова прыходзілі за кулісы, запрашалі нас у госці. Тыя сустрэчы зрабілі на мяне велізарны ўплыў. У Нью-Йорку я пазнаёміўся з Данчыкам, Янкам Запруднікам, іншымі беларусамі. На адным з канцэртаў мне падарылі бібліятэчку беларускай эміграцыйнай літаратуры. Сярод тых кніг я знайшоў адну, якая стала для мяне вельмі блізкай.

**— І што гэта за кніга?**

— Зборнік паэзіі Янкі Купалы “Спадчына”, выдадзена ў 1955 годзе ў Мюнхене і Нью-Йорку. Тады, у 1976 годзе, я ўпершыню ў сваім жыцці прачытаў Янку Купалу. І пасапраўднаму палюбіў яго. Гэта мой паэт. Я адчуў яго як вельмі блізкага мне чалавека. Са “Спадчыны” пачаўся мой зварот да Купалы. На вершы з гэтай кнігі я напісаў шмат песняў. А ў 1991 годзе мне прэзентавалі яшчэ адну кнігу — зборнік беларускіх духоўных песняў “Голас душы”, выдадзены ў Ватыкане ў 1946 годзе. Яна таксама паслужыла штуршком для стварэння новай праграмы, якую мы так і назвалі — “Голас душы”. Так што беларуская эміграцыя падказала мне тэмы і задумы дзвюх праграм. Я вельмі ўдзячны за гэта.

**— Вы адчувалі сябе ў Амерыцы беларусам?**

— Па крыві я рускі чалавек. Хоць характар мой, напэўна, ужо беларускі. Мне не раз казалі пра гэта мае сябры. Я адчуваю беларускую душу, калі слухаю народныя песні, калі чытаю Янку Купалу, калі прыязджаю ў беларускую вёску...

**— Як вам удалося падняць беларускую народную песню на такі высокі мастацкі ўзровень, як вы здолелі захапіць ёю цэлы свет і тым самым павярнуць да беларушчыны сотні тысяч беларусаў?**

— Такой задачы я сабе ніколі не ставіў. А калі так адбылося само сабой, то дзякуй Богу! Тут не столькі мая заслуга, колькі вялікае эмацыянальнае ўздзеянне на людзей беларускай песні, беларускага слова. У народнай песні ёсць вялікая сіла і энергія. Я гэта адчуў, таму і прысвяціў ёй палову пражытага жыцця.

**— Можа, у гэтым адчуванні і ўвесь феномен таленту Уладзіміра Мулявіна?**

— Можа. Талент — гэта спалучэнне прафесіяналізму, густу, жыцейскага вопыту. Я пачаў іграць на гітары ў 12 гадоў, авалодаў балалайкай і займаўся па 6—8 гадзін аж да 30 гадоў. Я сам прафесіянал і вельмі цаню прафесіяналізм іншых. Страшэнна не люблю танных рэчаў і нізкапробнай музыкі. Многіх сучасных артыстаў эстрады я не ўспрымаю і не прымаю іх творчасці, бо яна не мае нічога агульнага з мастацтвам. Мой густ сфарміравала беларуская народная песня.

**— Уладзімір Георгіевіч, пасля стольках гадоў поспеху і знаходжання на вяршыні музычнага Алімпу Мулявін не ператварыўся ў сноба ці прыстасаванца?**

— Мне няма часу быць некім, бо я хачу быць самім сабой. Для мяне галоўнае ў жыцці — мая праца і музыка. Мяне не цікавяць



грошы ці нейкія “левыя” канцэрты. Я жыву музыкай, і гэта прыносіць мне радасць і задавальненне.

**— А што прымушае Мулявінатворцу пісаць музыку, браць у рукі гітару?..**

— Ведаеш, а я ўжо без гэтага не магу. Пазбаў мяне музыкі, маёй працы, і я прападу. Я не змагу жыць, калі не буду складаць музыку, не буду рэпеціраваць, не буду бачыць вачэй сваіх гледачоў...

**— Хіба не бывае хвілінаў, калі ўсё хочацца кінуць?**

— На жаль, бываюць...

**— А чаму тады не кінулі?**

— Яшчэ не час. Амаль палову сваіх планаў я пакуль не ажыццявіў, але хачу гэта зрабіць. Адна праблема: часу застаецца ўсё менш і менш. Таму трэба спяшацца.

**— Хочацца спаткацца з былымі “песнярамі”, якія жывуць у Амерыцы?**

— Хочацца! У Амерыцы знайшлі прытулак Анатоль Кашапараў, Леанід Барткевіч, Уладзімір Бяляеў, Аляксандр Растопчын, яшчэ некалькі чалавек, якія пэўны час працавалі са мной.

**— Вам асабіста цяжка вяртацца дамоў пасля гастроляў?**

— Мяне заўсёды цягне дамоў, дзе б я ні быў. Цяжка не вяртацца, а бачыць, у якіх умовах і як жывуць нашы людзі. А найбольш мяне засмучае тое, што грамадства наша становіцца жорсткім, палітызаваным.

**— У Амерыцы Мулявіна вітаюць і сустракаюць як суперзорку першай велічыні. А дома вам як артысту хапае ўвагі і пашаны?**

— Мне прыемна, што да “Песняроў” у Амерыцы адносяцца з сімпатыяй і любоўю. Гэта прызнанне вартасці нашай музыкі. Наконт увагі і пашаны дома... Я люблю сваю публіку, працую для яе і адчуваю людскую ўдзячнасць. Знешнія атрыбуты папулярнасці мяне ніколі асабліва не хвалявалі. Радзіму, як і маці, не выбіраюць...

**Гутарыў Леанід ПРАНЧАК.**

СВОЙ ПОГЛЯД



*Кастрычнік 1998 года. Былі ў Браславе ў знаёмых. Апусцелы сад, дзе сарваў гэтую кветку, каб завезці жонцы Ірыне, паклаў пад шкло "Опеля". Мой сябра Валерый Грыбоўскі возіць з сабой попельніцу. Дождж за акном, кветка, сігара... Атрымалася карціна восені.*

# Аляксандр КАНДЫБА:
# «У ЖЫЦЦІ ШМАТ ЧАРОЎНАГА»



АД АЎТАРА

Я нарадзіўся ў Мінску ў 1958 годзе. У 1981-м скончыў Мінскі медінстытут і з таго часу працую ўрачом-нейрахірургам у Навукова-даследчым інстытуце траўматалогіі і артапедыі.

Мой дзед Саша, бацька і маці займаліся аматарскай фатаграфіяй, што паўплывала на мае захапленні ў дзяцінстве. Першыя здымкі бацькоў, сяброў і сваякоў зрабіў дзесяцігадовым хлопчыкам апаратам "ФЭД-2", які застаўся ў спадчыну ад дзеда. Пазней, у юнацтве, захапіўся адлю страваннем прыгажосці беларускіх краявідаў, шмат фатаграфаваў і зрабіў хатні альбом "Мой родны кут, як ты мне мілы...". Тады ж пазнаёміўся з Віктарам Кудраўцавым, выхаванцам Мінскага харэаграфічнага вучылішча, які на той час быў сталым фотааматарам. Пад яго ўплывам здымаў пачатак адраджэння сучаснага беларускага балета, што пачаўся з пастаноўкі Валянцінам Елізар'евым "Кармэн-сюіты". Фотаздымкі былі апублікаваны ў рэспубліканскім друку.



*Лета 1998 года. Ехалі на Нёман ля Магільнага, спыніліся ля вёскі Тоўсты Лес паглядзець на дубы ў жытнім полі. Мая сям'я: жонка Ірына, сын Саша і дачка Вольга.*

Калі вучыўся ў медінстытуце, працаваў у мікрафоталабараторыі, займаўся навукова-даследчай фатаграфіяй, рабіў таксама здымкі для факультэцкай і інстытуцкай газет.

Новае асэнсаванне рэчаіснасці і жаданне адлюстраваць у фотаздымках прыгажосць свету настала пазней, калі стварылася сям'я і нарадзіліся дзеці Саша і Оля.

Лічу, што на мой светапогляд паўплывалі паэма Якуба Коласа "Новая зямля", старажытная кітайская паэзія, музыка Фрэдэрыка Шапэна і творчасць гурта "Пінк Флойд".

У нашым жыцці ёсць шмат дзіўнага і чароўнага, а не толькі той бруд, які кожны з нас ведае і штодзень сустракае. Я бачу навакольную прыгажосць і хачу падзяліцца ўбачаным з іншымі.



*Гэтую лодку зрабіў я сам з дрэва. Калі раніцай мы выйшлі на возера, перад вачыма з'явілася гэтая карціна, я растлумачыў свайму сябру, Аляксандру Прохараву, як трэба выкадраваць, сеў са сваім Сашам і яго Віктарам у лодку, ад'ехалі. Вось што атрымалася... Мылічына, Полаччына, 1996 год.*

*Стоячы з фотаапаратам на балконе, убачыў, што па двары ідзе жонка. Я паклікаў, яна паглядзела ўгору. Так быў зроблены гэты здымак.*



*Гэты здымак зроблены над Віліяй каля вёскі Залессе, дзе жыў Агінскі. Травень 1998 года.*



*Красавіцкі першацвет. Здымак зроблены на Вялікдзень 1998 года.*



*Полаччына, ускраіна вёскі Пліса, яўрэйскія могілкі. Жнівень 1996 года.*

МЕРКАВАННЕ

## ЧАС БЕСКЛАПОТНАСЦІ. ЧАС АДКАЗНАСЦІ

● Алена СПАСЮК.

Мы зайздросцім сваім дзецям, калі бачым, як непасрэдна і чыста яны смяюцца, як плачуць, калі захочуць, бо самі так ужо не можам.

Сучасныя дзеці адрозніваюцца ад нас, як кнігі, якія чыталі мы калісьці, ад тых, што бачаць сёння яны. Хай сабе і казкі тыя ж, але звярніце ўвагу: папера не шэрая, малюнкі яркія. Маленькія людзі цяпер з нараджэння валодаюць большай колькасцю інфармацыі. Ім ёсць з чаго выбраць. Яны з пяці гадоў або і раней цікавяцца камп'ютэрам, у звычайным садзіку (хай сабе за нашую плату) вывучаюць замежную мову, з захапленнем гартаюць усялякія энцыклапедыі, не падазраючы, што мы ўбачылі такую кнігу ўпершыню разам з імі. Але ж галоўныя пытанні жыцця, радасць і боль усё роўна скіраваныя да нас, бацькоў. Так было і будзе. Нам трэба вучыцца любіць сваіх дзяцей, такіх непадобных да нас колішніх.

Калі ў нашым дзяцінстве ўзнікалі праблемы непаслухмянасці — мы атрымлівалі "плескача", і, здаецца, усё станавілася на свае месцы — бацькі ў ролі гаспадара, дзеці — у ролі... дзяцей. Сёння паспрабуйце выхоўваць так сына ці дачку — яны вам адразу нагадаюць пра правы чалавека. У чатырохгадовым узросце паглядзець яснымі вачыма, поўнымі слёз, і гаротна скажуць: "Мама, на дзяцей нельга крычаць і біць іх. Няўжо ты мяне не любіш?" А школьнік (пра слёзы не кажу, не ўпэўнена) заявіць: "Ты зняважаеш мяне. Няўжо ты не ведаеш пра правы чалавека?" І нам прыйдзецца толькі пагадзіцца са сваім разумным дзіцём.

Канвенцыя аб правах дзіцяці была прынята ААН амаль 40 гадоў таму, і хаця да сённяшняга часу некаторыя яе палажэнні застаюцца толькі дэкларацыяй, пра існаванне такога дакумента ведае амаль кожны вучань: вытрымкі з яе вісяць на шыльдах практычна ў кожнай школе. Я думаю, сучасныя хлопчыкі і дзяўчынкі больш упэўненыя ў сабе, чым пакаленне іх бацькоў і дзядоў. Няхай абараніць сябе ім таксама нялёгка: дзіця ёсць дзіця. Але існаванне канвенцыі і, галоўнае, веданне сваіх правоў суцяшае, бо сапраўды першым было слова. А адстойванне асабістых правоў — пачатак павагі да правоў іншых.

Чаго ж нестае нашым дзецям? На жаль, пакуль многага. Некаму — новага камп'ютэра, а іншаму — і звычайных чаравікаў. Але самае горшае, калі нестае любові і разумення, у першую чаргу бацькоўскай. Тым больш у сённяшняй эканамічнай сітуацыі, дзе жыццё хутчэй нагадвае выжыванне. Але ў нашых дзяцей ёсць галоўнае — свая незалежная краіна. Каля 800 тысяч маленькіх грамадзян нарадзіліся за гады існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь. Ад таго, якім будзе іх дзяцінства, у многім залежыць і лёс нашай краіны. Калі нас хвалюе агульная будучыня, грамадства павінна клапаціцца пра кожную асобную сям'ю, бо кожнае асобнае дзіця, якое там выхоўваецца, — будучага беларускага грамадзяніна.

Здараецца, мы зайздросцім вясёламу дзіцячаму смеху, бо самі даўно ўжо не можам так смяяцца. Наш абавязак — зрабіць так, каб гэты бесклапотны, шчаслівы смех нашых дзяцей гучаў як мага часцей.

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1207.
Падпісана да друку 28.06.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.